Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 5. 15 верасьня 1929 году

# ВЕСТКІ

## ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (больш.) БЕЛАРУСІ.

ВЫХОДЗЯЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, ЦК КП(б)Б. Тэлефон № 585.

Падпіска прымаецца ва ўсіх паштовых установах БССР.
УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 6 мес. . 1 р. 25 к.
на 3 мес. . 65 к.





## Баявая задача.

Праверка і чыстка партыі, чыстка дзярж. апарату, якія праводзяцца пад кутком погляду праверкі клясавай лініі кожнай організацыі і кожнага асобнага комуніста, праверка таго, наколькі кожны комуніст, на якім-бы вучастку работы ён ні быў пастаўлены партыяй, у складаных умовах пэрыяду соцыялістычн. рэконструкцыі і **няўхільных** цяжкасьцяй, здолен цьвёрда і выразна ажыцьцяўляць лінію партыі. Рэалізацыя генэральнага пляну соцыялістычнага будаўніцтва, рашучы націск на капіталістычныя элемэнты, упартая работа партыі і рабочае клясы па выкарчоўваньню карэньняў капіталізму, суправаджаецца шалёным супраціўленьнем клясавага ворага, які вядзе барацьбу супроць політыкі рабочае клясы, націскае на некаторыя адсталыя пласты рабочае клясы і на асобныя няўстойлівыя зьвеньні партыі. У такі пэрыяд кожны асобны факт недастатна цьвёрдай абароны пролетарскіх позыцый, кожнае малейшае хістаньне прыносіць вялізарную шкоду пролетарскай рэволюцыі, каштуе вялікіх „издержек". У такі адказны пэрыяд малейшае адступленьне ад генэральнай лініі партыі, малейшае паслабленьне ў барацьбе з усякімі ухіламі ад партыйнай лініі, у першую чаргу з правым бухарынскім ухілам і прымірэнцтвам альбо з опортуністычнымі хістаньнямі на практыцы, а таксама з усялякімі рэшткамі контррэволюцыйнага трацкізму, з усякімі наскокамі і паўторам задоў трацкізму, паслабленьне рашучай барацьбы з усякімі атакамі супроць бальшавіцкай лініі парті—можа прынесьці партыі і рабочай клясе непапраўны ўшчэрб і затармазіць пасьпяховае соцыялістычнае наступленьне. Пагэтаму партыя з та-



кой катэгарычнасьцю ставіць пытаньне перад кожным комуністым, у першую чаргу перад кіруючым складам партыі, аб забесьпячэньні цьвёрдай бальшавіцкай лініі, жалезнага адзінства і няпрымірымай барацьбы з клясавым ворагам.

Праверка і чыстка кіруючага складу і вясковых парторганізацый у КП(б)Б, а таксама праверка некаторых важнейшых вучасткаў нашае работы, паказалі недастатковасьць і некаторае адставаньне ў галіне вырашчываньня новых кіруючых кадраў, паказалі, што шэраг важнейшых вучасткаў нашае работы (зямельныя ворганы і с.-г. крэдыту, судовыя, фінансавыя, саматужнапрамысл. коопэрацыі і інш.) не забясьпечаны ў дастатковай меры кіруючым кадрам. Такое становішча ставіць перад усімі організацыямі КП(б)Б з усёй вастратой пытаньне аб павялічэньні і ўзмацненьні кіруючых кадраў. Трэба прызнаць, што мы недастатна энэргічна займаліся гэтым важнейшым пытаньнем да гэтага часу. У першую чаргу трэба прызнаць слабай работу па вылучэньні новых кадраў з найбольш вытрыманых рабочых-комуністых. Пагэтаму работа па вылучэньні на кіруючую работу комуністых рабочых з вытворчасьці, энэргічная работа па вырашчваньні новых кадраў і іх бальшавіцкім выхаваньні зьяўляецца аднэй з важнейшых задач, якая стаіць перад усімі організацыямі КП(б)Б, задача, над вырашэньнем якой мы павінны працаваць упарта і сыстэматычна. Перагляд і праверка ўсяго партыйнага актыву, а ў першую чаргу рабочай яго часткі пад кутком падбору найбольш моцных, партыйна аформленых і вытрыманых комуністых на кіруючую работу, рашучае ўзмацненьне ўсіх вучасткаў нашай работы, правільнае разьмяркаваньне і расстаноўка сіл,—гэта зьяўляецца неабходнай умовай забесьпячэньня чыстаты клясавай лініі ў рабоце ўсіх організацый, неабходнай умовай пасьпяховага соцыялістычнага будаўнітцва. А ў той-жа час неабходна з неаслабнай увагай работаць над уздымам марксыцка-ленінскай падрыхтоўкі кіруючых кадраў, бо ў шэрагу выпадкаў праверка паказала недастатную політычную падрыхтаванасьць часткі кіруючага складу, няўменьне правільна орыентавацца ў важнейшых пытаньнях партыйнай політыкі, некаторае адставаньне росту часткі кіруючага складу ад агульнага росту партыйнай масы. Неабходнай умовай для росту кіруючых кадраў, далейшага ўзмацненьня аўтарытэту ў масах зьяўляецца таксама сьмелае і рашучае разгортваньне самакрытыкі зьнізу „не взирая на лица“. Яшчэ з большай рашучасьцю і сьмеласьцю разгортваць самакрытыку мас, рашучая барацьба з усякімі глушыцелямі самакрытыкі і замазваньнем і скажэньнем партыйнай лініі і недахопаў нашай работы—зьяўляецца асновай для далейшага росту кадраў і ўзмацненьня іх аўтарытэту ў масах.

Кожная партыйная організацыя павінна безадкладна заняцца гэтым важнейшым пытаньнем, распрацаваць цэлую сыстэму практычных мерапрыемстваў, накіраваных да ўзмацненьня і павялічэньня кіруючых кадраў.

Гэтая задача асабліва на даны пэрыяд часу зьяўляецца актуальнейшай і адказьнейшай задачай для ўсёй КП(б )Б

---

# За рашучае палепшаньне парткіраўніцтва.

Прыклады ўсялякіх „гнойнікаў“, выкрытых за апошні час на падставе разгортваньня самакрытыкі, здарэньні на Дабрускай ф-цы, на заводзе „Кастрычнік“ і інш. паказалі, што галоўныя прычыны, якія выклікалі ўсе гэтыя „справы“, упіраюцца ў нездавальняючую пастаноўку парт.

кіраўніцтва, адсутнасьць з боку паасобных парт. органаў выстарчальнай палітычнай дбайнасьці, няўменьне сваечасова мабілізаваць партыйную рабочую масу для рашучай барацьбы з усялякімі недахопамі нашага будаўніцтва.

Тым часам, гэты асноўны вурок яшчэ дагэтуль ня ўсе партыйныя арганізацыі ўцямілі. Буйнейшым заганам усё яшчэ застаецца ўсьцяж дэкляратыўнасьць у кіраўніцтве, што вельмі часта вядзе да „верхаглядзтва“, няўменьня сваечасова выкрыць прычыны недахопаў і мабілізаваць шырокія масы для рашучай барацьбы з імі. Шэраг фактаў сьведчыць аб схільнасьці паасобных парт. органаў хутка захапляцца дасягненьнямі настолькі, што прыводзіць да бюрократычнага самадавольства, недаацэнцы і замазваньні недахопаў і нават да простага прымірэнцтва, у аснове чаго досыць часта ляжыць абывацельскае нежаданьне „пасварыцца“, „пакрыўдзіць“ за „глупства“. Гэта знаходзіць свой адбітак у тым, што ў пастановах замест сумленнай об'ектыўнай крытыкі недахопаў, імкнуцца „смягчыць формуліроўкі“, зрабіць усялякія „агаворкі“, „аб'ясьніць“ (па сутнасьці апраўдаць) перакручваньні партыйнай лініі ўсялякімі „ўмовамі“ і г. д. „Глупства“, што пры гэтым замест выразнай лініі, выразнага палітычнага аналізу атрымоўваецца „пухлая рэзолюцыя“, дзе ў кожным пункце пачатак супярэчыць канцу, а кожны пункт супярэчыць другому. Галоўнае не „пакрыўдзіць“. Зразумела, што ад такога „кіраўніцтва“ ня прыходзіцца чакаць якіх-небудзь рашучых мер у справе аздараўленьня таго або іншага вучастку, работы, у справе рашучай барацьбы з „конкрэтнымі носьбітамі зла“ і выхаваньня на гэтай барацьбе шырокіх мас. Конкрэтныя мерапрыемствы падменьваюцца агульнымі дырэктывамі, жывое дзейнае кіраўніцтва падменьваецца формальным вынясеньнем „рэзолюцый“.

Добрым прыкладам да сказанага можа паслужыць пастанова Віцебскага АК КПБ ад 13/VIII-29 г. па дакладу парткалектыву Віцебскага вузла МББ чыгункі. У гэтай пастанове, што ні пункт, то яркая ілюстрацыя поўабывательскага спакою і палітычнай нізкавокасьці.

Пункт I. „Маса партыйцаў арганізацыі ідэолёгічна ўстойліва і цьвёрда праводзіць лінію партыі. Побач з гэтым ў арганізацыі маецца *шэраг* настрояй правага ўхілу і прымірэнцтва, а *яшчэ ў большай меры* незразуменьне іх *сутнасьці і небясьпекі*... Пытаньне аб правым ухіле прапрацавана недастаткова. Бюро парткалектыву і цэх. ячэек *барацьбе з канкрэтнымі праявамі правага ўхілу—не зьвярталі ўвагі* (падкрэсьл. намі.—Ш. Т.).

Дарэмна шукаць дзе-небудзь у пастанове адпаведныя вывады. Акругком толькі констатуе, што ў арганізацыі „*шэраг* настрояў правага ўхілу і прымірэнцтва“, што ў арганізацыі не ўявілі ні сутнасьці, ні небясьпекі правага ўхілу і *ніякай барацьбы з канкрэтнымі праявамі правага ўхілу не вядзецца*, але гэта не такія „рэчы“, якія могуць узварушыць Віцебскіх кіраўнікоў. Яны зусім спакойна запэўніваюць, што „маса партыйцаў ідэолёгічна ўстойліва і *цьвёрда* праводзіць лінію партыі“. Так мобілізуюць парт. арганізацыю для рашучай барацьбы з опортунізмам. Але пяройдзем далей, да пункту 2:

„На падставе ўнутрыпартыйнай дэмократыі і разгортваньня самакрытыкі ў партарганізацыі і сярод рабочых мас вырасла актыўнасьць і палепшыўся іх удзел у праводзімай рабоце. Аднак у партарганізацыі маецца *шэраг* парушэньняў унутры-партыйнай дэмократыі; як сярод шэрагу партыйцаў, так асабліва беспартыйных ёсьць *боязьнь* крытыкаваць; маюцца *спробы зажыму і звужваньне рамак самакрытыкі*; слаба разгорнута крытыка недахопаў самых мас“ (падкрэсьл. намі.—Ш. Т.).

Дарэмна зьдзіўляцца. Калі „цьвёрдае“ правядзеньне партыйнай лініі

спакойна ўжываецца з адсутнасьцю барацьбы з конкрэтнымі праявамі правага ўхілу, дык чаму разгортваньне ўнутры-партыйнай дэмократыі і самакрытыкі ня можа спакойна ўжывацца з парушэньнямі дэмократыі і зажымам самакрытыкі? Аднак, даўно ўжо сказана было, што „если увидишь на клетке слона надпись буйвол, не верь глазам своим". Таму, адкінем „оптымізм" віцебчан і паглядзімо, што, уласна кажучы, яны разумеюць пад „дэмократыяй", самакрытыкай і палепшаньнем удзелу мас у рабоце".

„У арганізацыі маецца недапусьціма вялікі пасыў партыйцаў (15—20%), якія ня ўдзельнічаюць у рабоце, адарваны ад штодзённага жыцьця арганізацыі і якія часта зьяўляюцца балястам. Недапушчальным зьяўляецца налічча ў арганізацыі значнай колькасьці кандыдатаў партыі—рабочых (каля 60 чал.) з кандыдацкім стажам ад 1 да 5 год... „Фактычны ахоп партвучобай 10—12%".

„Асноўныя гаспадарчыя дырэктывы і пляны слаба прапрацаваны і папулярызаваны ў масах. Ня гледзячы на частковыя посьпехі (якія? Ш. Т.) выкананьне асноўных гаспадарчых дырэктыў (падняцьцё працоўнае дысцыпліны, вытворчасьці працы, якасьці, зьніжэньня сабекошту і інш.) праходзіць слаба. Зусім недапушчальным зьяўляецца факт надзвычайна вялага і позьняга разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва ў выніку коснасьці, *баязьні цяжкасьцяй* (?—Ш. Т.), габінэтнага падыходу з боку *кіруючых партыйцаў*"...

„Ініцыятыва і самадзейнасьць рабочых у справе палепшаньня вытворчасьці праяўляецца слаба, у выніку той казёншчыны, якая часта маецца ў рабоце вытворчых нарад і камісій і фармальна-бюрократычнага падыходу да шэрагу прапаноў рабочых"...

„Асноўныя дырэктывы аб масавай рабоце, як у партыйных, так і профэсыянальных арганізацыях надта слаба праломлены і масавая работа пры наліччы некаторых дасягненьняў у культурнай рабоце (?—Ш. Т.) праводзіцца слаба: нездавальняючая якасьць праводзімых сходаў і выкананьне іх пастаноў, адсутнасьць работы групоргаў у цэхах, слабасьць разгортваньня паліт., проф. вытворчае, антырэлігійнае, вайсковае і інш. відаў прапаганды (што застаецца тады ад дасягненьняў у культурнай рабоце?—Ш. Т.). Слабая работа грамадзкіх арганізацый, кампанейская работа з актывам, адсутнасьць работы з рабкорамі, слабае рэагаваньне на запытаньні рабочых і інш".

„Слабае прыцягненьне мас да вылучэньня"... „моманты заціраньня і падрыву работы вылучэнцаў".

„Жанработа праводзіцца надзвычайна слаба... асноўныя дырэктывы па жанрабоце застаюцца ня выкананымі".

„У камсамольскай арганізацыі шэраг хваробных зьявішчаў, якія тармозяць падняцьцё работы арганізацыі на здавальняючую ступень"...

„У праводзімай рабоце парт., масавых і гаспадарчых арганізацый вузла, ва ўзаемаадносінах як парт., так і беспартыйных мас значнае мейсца займаюць яшчэ моманты казёншчыны, цэхаўшчыны, службовае замкнутасьці... маюць мейсца вялікі антаганізм і падзяленьне на „нашых" і „вашых" паміж сябрамі саюзу і нават у парт. арганізацыі".

Проста розуму недасяжна, якім самадавольствам патрэбна ўладаць, каб, намаляваўшы такую карціну, убачыць у ёй палепшаньне ўдзелу мас у штодзеннай рабоце!" Проста дзіўна, што віцебскія таварышы цяпер яшчэ праяўляюць такое грубае неразуменьне сутнасьці ўнутрыпартыйнай дэмократыі і самакрытыкі, ня гледзячы на тое, што ўжо больш году прайшло з часу агалашэньня адозвы ЦК УсеКП аб самакрытыцы, што зусім сьвежы яшчэ

вурокі Смаленска, Астрахані і інш. (у тым ліку *ўласныя вурокі* Віцебскай арганізацыі).

У нас няма падрабязных матар'ялаў абсьледваньня парт. калектыву Віцебскага вузла МББ. Але досыць і таго, што канстатавана ў пастанове АК, каб выразна прадставіць сабе фактычнае становішча на вузьле. Патрэбна толькі некалькі глыбей праналізаваць пададзеныя ў пастанове факты з пункту погляду прычын і вынікаў і становішча на вузьле выступіць, прыкладам, гэтак:

1. Унутры-партыйная выхаваўчая работа і масавая політычная работа сярод рабочых пастаўлена надзвычайна дрэнна. Ініцыятыва і актыўнасьць паасобных груп рабочых натыкаецца на сьцяну бюрократызму, формальнага, нячулага падыходу і простага працідзейнічаньня адміністрацыі і кіруючых організацый.

2. Пры слабасьці масавай працы і адсутнасьці рашучай барацьбы з хваравітымі зьявішчамі і настроямі, апошнія як унутры парт. і комсамольскай організацый, так і сярод беспартыйных рабочых і служачых набываюць масавы характар.

3. Клясавы вораг (чужыя элемэнты, „былыя людзі", выпадкова трапіўшы на вытворчасьць і ў апарат, кулацкія элемэнты) карыстаецца з гэтага становішча і імкнецца зрабіць уплыў на некаторыя групы рабочых, не сустракаючы належнага адпору ў сваёй актыўнасьці (альбо, як у пастанове АК, мякка фармуліруецца", у масавай рабоце гэтыя моманты надта слаба вучытвалісь").

4. *Асноўная прычына* такога становішча на вузьле і ў парткалектыве ляжыць *фактычна ў зажыме ўнутры-партыйнай дэмократыі і сапраўднай бальшавіцкай самакрытыкі, у адрыве кіраўніцтва калектыву ад мас і прытупленьня яго клясавага пачуцьця.*

Гэта і прывяло да таго, што кіраўніцтва калектыву: а) не зьвяртала ўвагі барацьбе з канкрэтнымі праявамі правага ўхілу і само кацілася да опортунізму ў практычнай рабоце („баязьнь цяжкасьцяй" пры разгортваньні соц. спаборніцтва, хвасьцізм і інш.); б) пасыўна-прымірэнча адносілася да фактаў разлажэньня і загніваньня, да хваравітых зьявішчаў сярод партыйцаў і беспартыйных і не організавала рашучага адпору вылазкам клясавага ворагу; в) ня здолела праламіць і фактычна сарвала выкананьне асноўных дырэктыў партыі ва ўсіх галінах працы.

Дарэмна, аднак-жа, шукаць у пастанове Віцебскага АК нешта падобнае да політычнага аналізу і політычнай ацэнкі фактычнага становішча на вузьле МББ. Уся пастанова складзена ў адным духу, у адным стылі: спачатку кожнага пункту дэкляруецца „благапалучнае становішча, і на гэтым фоне адмоўныя зьявішчы і недахопы" толькі констатуюцца. Вось і ўсё. Ніякага аналізу фактаў, ніякіх агульных вывадаў. Буйнейшыя політычныя памылкі кіраўніцтва парткалектыву Акругком расцаніў як „паслабленьне кіраўніцтва і толькі. І зусім зразумела, што ў выніку такой нізкавокасьці Акругком ня ўжыў ніякіх конкрэтных організацыйных мерапрыемстваў да аздараўленьня работы і *кіраўніцтва* парткалектыву (калі ня лічыць пастанову аб павялічэньні ліку платных працаўнікоў к-ву да 2-х чал.).

Прыклад, пададзены намі, зусім не адзіночны. У тэй ці іншай меры павярхоўны падыход пры аглядах, формальнае вынясеньне пастаноў, адсутнасьць дастатковай выразнасьці і політычнай чуласьці пры ацэнцы тых ці іншых зьявішчаў сустракаецца з боку шэрагу партарганаў. Асноўная прычына гэтага фактычна ляжыць у недастаткова рашучым і сьмелым разгортваньні самакрытыкі і недаацэнцы цяжкасьці кіраўніцтва ў сучасны пэрыяд соцыялістычнай рэконструкцыі. Гэтага цярпець далей ні ў якім разе нельга. Задача ўсямернага палепшаньня якасьці парткіраўніцтва зьверху да нізу на падставе сапраўднай сьмелай бальшавіцкай самакрытыкі па-

вінна прыцягнуць да свайго выразшэньня максымальную ўвагу.

Усім кіруючым парторганам неабходна запоўніць важнае ўказаньне т. Молотава, што „толькі тое партыйнае кіраўніцтва будзе ў даных умовах на вышыні сваіх задач, якое сьмела і сьвядома праводзіць на практыцы лёзунг самакрытыкі, якое расьце на барацьбе з недахопамі, на перамаганьні інэртнасьці і бюрократызму ў нашых організацыях і на ўцягненьні мас ва ўсю справу соцыялістычнага будаўніцтва".

Ш. Т.

---

# Палепшыць кіраўніцтва працай па вярбоўцы ў партыю.

Вынікі росту КП(б)Б з часу XII зьезду сьведчаць аб палепшаньні якасьці росту, а разам з тым соцыяльнага складу нашае парторганізацыі. Ня гледзячы аднак на дасягненьні, неабходна яшчэ раз падкрэсьліць, што бяз сур'ёзнай, упартай вярбовачнай працы ў далейшым, задача, якая пастаўлена XII зьездам—давесьці ў складзе КП(б)Б да канца 1930 г. лік рабочых ад варштату да 50%—ня будзе выканана. А тым часам усе даныя гавораць за тое, што амаль ўсюды праца па вярбоўцы ў партыю пастаўлена яшчэ дрэнна, калі зусім не адсутнічае. Прыцёк у партыю з большага ідзе самацёкам, плянавай працы ячэек па вывучэньню базы росту, па падрыхтоўцы кадраў беспартыйнага актыву амаль няма, індывідуальную вярбоўку камуністаў не вядуць, культмасавая праца ўсё яшчэ слаба ўвязваецца з задачай вярбоўкі ў партыю. З боку шэрагу нізавых організацый нглядаецца недаацэнка задачы вярбоўкі ў партыю, сур'ёзнасьць яе недастаткова растлумачана і ўяўлена парт. масай. Сярод некаторых партыйцаў наглядаюцца нават адмоўныя, шкодныя настроі наконт вярбоўкі ў партыю.

Чым-жа тлумачыцца, што ў вярбовачнай працы ячэек, ня гледзячы на шэраг дырэктыў, належнага пералому яшчэ няма. Мы лічым, што галоўнай прычынай такога становішча зьяўляецца нездавальняючае кіраўніцтва парткомаў. Ня будзем ужо гаварыць аб тым, што шэраг парткомаў недапушчальна мала ўдзяляюць увагі пытаньням рэгуляваньня росту. Нават тыя парткомы, якія за апошні час узмацнілі ўвагу гэтаму пытаньню, яшчэ не паставілі сваё кіраўніцтва ў гэтай галіне на належную вышыню. З большага ўсё кіраўніцтва зводзіцца да таго, што час ад часу ў парткоме заслухоўваюць даклад тэй ці іншай ячэйкі, організацыі аб выніках росту. Дырэктыва ЦК аб непасрэднай практычнай дапамозе нізавым організацыям у пастаноўцы вярбовачнай працы яшчэ не знайшла належнага адбітку ў кіраўніцтве парткомаў. З другога боку, няма сыстэматычнага нагляду з боку парткомаў за ходам працы па вярбоўцы непасрэдна на прадпрыемствах, у ячэйках, што не дае магчымасьці сваечасова і ўсебакова вывучыць прычыны, якія тармазяць вярбоўку менавіта ў данай ячэйцы, на даным прадпрыемстве. У выніку парткомы ня могуць сваечасова даць дастаткова канкрэтныя ўказаньні тэй ці іншай ячэйцы, ужыць практычныя захады аб дапамозе ёй і сваечасова папулярызаваць станоўчы вопыт паасобных організацый. Праверка росту, якая покуль што вырашаецца толькі ў форме заслухоўваньня дакладаў нізавых організацый, набывае формальны павярхоўны характар; пастановы зводзяцца да голага канстатаваньня дасягненьняў і недахопаў і агульных, іншы раз, праўда, вельмі грозных, але па сутнасьці бясплодных дырэктыў, менавіта: „катэгорычна пра-

панаваць“, „прыняць рашучыя меры“ і г. д. Побач з гэтым наглядаецца нясур'ёзны, неахайны падыход шэрагу парткомаў да дачы нізавым organізацыям дырэктыў у галіне росту. Дырэктывы часта дублiруюцца і практычна нічога не даюць нізавым организацыям; у шэрагу выпадкаў пастановы дрэнна прапрацоўваюцца, не даюць выразнай ацэнкі і выразнай устаноўкі ў далейшай працы, а ў некаторых выпадках па сутнасьці няправільна орыентуюць нізавыя організацыі.

Вось, напрыклад, Аршанскі АК, заслухаў даклад аб росьце Талочынскай райорганізацыі, абмяжоўваецца буквальна гэткай пастановай: „Адзначыць здавальняючы рост за конт сялян“. Першыя здавальняючыя вынікі райорганізацыі па ўцягненьню батракоў і с.-г. рабочых настолькі задаволілі АК, што ён ня толькі не пацікавіўся тым, што зроблена і робіцца Райкомам для забесьпячэньня здавальняючай вярбоўкі ў далейшым, як пастаўлена гэта работа, але нават не палічыў неабходным даць якія-небудзь паказаньні РК на далейшы час. Затое АК пасьпяшыў падкрэсьліць „недастатковы рост за лік сялян“ (заўважце, нават не беднякоў, калгасьнікаў, а наогул сялян). Нам здаецца, што ў сучасны момант, калі пераломом у справе ўцягненьня батрацтва ў партыю толькі вызначыўся, калі задача жорсткага адбору нерабочых элемэнтаў стаіць з усёй вострасьцю, такая пастанова можа толькі дэзорыентаваць організацыю, стварыць дэмобілізацыйныя настроі ў справе вярбоўкі батракоў і с.-г. рабочых. Такога роду пастановы сьведчаць ня толькі аб формальным падыходзе да праверкі росту, але і аб тым, што некаторыя парткомы лёгка захапляюцца малейшымі дасягненьнямі. У канечным выніку гэта гаворыць аб недаацэнцы ўсёй складанасьці задач, намечаных партыяй у галіне росту.

Прыкладам да вышэйсказанага можа служыць і наступная пастанова Бабруйскага ГРК па дакладу аб росьце яч. Фанзаводу (прыводзім вытрымкі).

„Бюро ГК адзначае, што рост ячэйкі з чэрвеня 1928 г. па ліпень 1929 г. зьяўляецца здавальняючы і здаровы... і лічыць адсеў у час прыёму здаровым (з паданых 40 заяў, прынята ячэйкай 29, а Гаркомам 24).

Побач з гэтым Бюро Гаркому адзначае: 1) што рост ячэйкі за гэты час праходзіў няплянава, на 50% —... кампанейскі; 2) што работа па вярбоўцы ў партыю вялася несыстэматычна, ня было дастатковага вучоту актыву, за конт каго расьці, у выніку, у значнай частцы, заявы аб уступленьні ў партыю паступалі ад тых, на каго ячэйка не разьлічвала і яны да гэтага часу ня ўцягваліся ў грамадзкую працу; 3) недастаткова зьвярталася ўвага падрыхтоўцы камсамольцаў у партыю; 4) пытаньне аб росьце ў ячэйцы недастаткова прапрацавана...групоргі пытаньнем вярбоўкі рабочых у партыю займаліся недастаткова“.

Гэта пастанова наглядна паказвае аб боязнасьці рашуча крытыкаваць. Замест таго, каб выразна разьмежаваць пытаньні аб лічбовых выніках росту (якія ў ячэйцы больш-менш здавальняючыя) і якасьці працы ячэйкі па вярбоўцы (якая бязумоўна нездавальняючая, калі зусім не адсутнічае), замест таго, каб завастрыць са ўсёй сілай увагу ячэйкі на палепшаньне працы па вярбоўцы рабочых у партыю, Гарком у сваёй пастанове асабліва падкрэсьлівае, што „рост здавальняючы і здаровы“, „адсеў здаровы“, праўда, недахопы пералічаны, але ўвага ячэйкі на іх не завострана, яны неяк адступаюць на задні плян, у разрад „другарадных“ недахопаў. А ўжо ня інакш як схільнасьць хутка кідацца ў экстаз прадыктавала Гаркому тую ацэнку, якую ён даў адсеву ў ячэйцы. Зразумела, што пры адсутнасьці належнай вярбовачнай працы, калі „заявы паступалі ад тых, на каго ячэйка не разьліч-

вала“, і хто „ў грамадзкую працу не ўцягваўся“, такі высокі адсеў (40%) зьяўляецца нямінучым злом; але ацэньваць яго, як „здаровы“— гэта значыць даць ячэйцы няправільную ўстаноўку ў рэгуляваньні росту.

Нельга абыйсьці моўчкі і тое, што, дзякуючы нядбайным адносінам у пастановах парткомаў, часта прыпадносіцца ўсялякая блытаніна. Так, напрыклад, Бабруйскі Гарком прапануе ячэйцы Фанзаводу „работу па вярбоўцы ў партыю прыстасоўваць да штодзённай культмасавай працы“. Мусіць у Бабруйскім Гаркоме лічаць, што ячэйкі „ўсё зьядуць“.

Усялякія перадчасныя захапленьні частковымі дасягненьнямі, дэмобілізацыйныя настроі ў працы па вярбоўцы ў партыю ў сучасны момант асабліва шкодны і недапусьцімы. Патрэбна рашучую барацьбу павесьці супроць недаацэнкі гэтае работы і формальных адносін паасобных оргацізацый да яе. У першую чаргу патрэбна рашуча палепшыць кіраўніцтва парткомаў у галіне рэгуляваньня росту, накіраваўшы яго па лініі, галоўным чынам, непасрэднай практычнай дапамогі ў пастаноўцы масавай і вярбовачнай працы, непасрэдна на прадпрыемствах, у ячэйках. Патрэбна максымальна скарыстаць для гэтае мэты інструктарскі апарат, (штатны і пазаштатны), і больш рашуча рэалізаваць дырэктыву ЦК аб прымацаваньні адказных працаўнікоў да ячэек для наладжваньня вярбовачнай працы, пэрыядычна правяраючы практычна прароблеиую працу. Сыстэматычны нагляд парткомаў над ростам ячэек павінен праводзіцца ня толькі шляхам заслухоўваньня дакладаў, але праз, заслухоўваньне інформацый інструктароў, прымацаваных, правядзеньня спэцыяльных нарад актыву ячэек, спэцыяльныя ўсебаковыя абсьледаваньні на мейсцы і іншае.

Такі жывы сыстэматычны нагляд дасьць магчымасьць парткомам конкрэтызаваць кіраўніцтва вярбовачнай працай, хутчэй ухіліцца ад недахопаў, сваечасова распаўсюджваць станоўчы вопыт паасобных організацый і забясьпечыць плянавае поўнае выкананьне і тэрмін задачы, пастаўленай XII зьездам КП(б)Б.

**Голанд.**

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б.

## Аб мерапрыемствах па аказаньню дапамогі дзецям батракоў і вясковай беднаты, ахопленых 4-х і 7-хгадовымі школамі.

*(Пастанова ЦК КП(б)Б ад 5-VIII 1929 г.).*

У справе дапамогі дзецям батракоў і вясковай беднаты, ахопленых 4-х і 7-хгадовымі школамі, Сакратарыят ЦК КП(б)Б адзначае:

1. Павялічэньне бюджэтнага фонду з 50.000 р. у мінулым годзе да 176.269 р. 50 к., з якіх вызначана 2.000 стыпэндый па 25 р. кожная для бяднейшых вучняў II концэнтру.

2. Некаторае праяўленьне грамадзкай ініцыятывы праз камітэты садзейнічаньня пры школах з боку КСУ, каапэрацыі і самога насельніцтва ў організацыі мясцовых фондаў, якія складаюць па 94 раёнах БССР 47.190 р. 18 к.

3. Адчыненьне 46 новых інтэрнатаў па бюджэту у 4-х за грамадзкія сродкі пры 7-хгадовых школах і павялічэньне ахопу беднаты існуючымі.

4. Усе гэтыя мерапрыемствы далі магчымасьць аказаць дапамогу 3.309

дзецям батракоў (75% навучаючыхся) і 30.112 вясковай беднаты (30%) галоўным чынам вопраткай, абуткамі і бялізнай.

Адначасова з гэтым падкрэсьліваецца наступнае:

а) познае разьмеркаваньне большасьцю АВК сродкаў, вызначаных па бюджэту (люты, сакавік—май), дзякуючы чаму 13.065 р. не скарыстаны;

б) драбленьне фонду беднаты (па 3-5 руб. на школу) і стыпэндый (замест 25 р.—12 р. 50 к.);

в) выдача дапамогі дзецям іншых соцыяльных груп у той час, калі ня ўсім дзецям вясковай беднаты была аказана дапамога (Бабруйская акруга) і частковое выдаткаваньне бюджэтных сродкаў некаторымі акругамі на падручнікі і пісьмовыя прылады (Магілеўская акруга);

г) адсутнасьць пры палове школ камітэтаў садзейнічаньня і слабая праца існуючых;

д) недастатковы ўдзел у дапамозе дзецям батракоў і беднаты КСУ і кааперацыі;

е) нездавальняючае кіраўніцтва з боку АВК, РВК і мясцовых органаў народнае асьветы справай дапамогі дзецям батракоў і беднаты, дзякуючы чаму ня было разгорнута належнай працы па прыцягненьню грамадзкіх сродкаў і своечасовага скарыстаньня сродкаў, адпушчаных па бюджэту, у выніку чаго процант адсеву са школ дзяцей батракоў і беднаты застаецца яшчэ вялікім (5—12—у сярэдзіне і 12—48—у канцы навучальнага году).

Выходзячы з гэтага, Сакратарыят ЦК лічыць працу па ахопу дзяцей беднаты і батрацтва школай, а таксама па аказаньню ім дапамогі—усё яшчэ нездавальняючай.

У мэтах найлепшага забесьпячэньня дзяцей батракоў і вясковай беднаты, Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе:

1. АК, РК і фракцыям АВК і РВК і органам Наркамасьветы на мясцох прыняць меры да стопроцантнага ахопу дапамогай дзяцей батракоў і беднаты ў наступным навучальным годзе, за лік мясцовага бюджэту і грамадзкіх арганізацый.

2. Даручыць Наркамасьветы разам з Белкоопсаюзам, Белсельсаюзам, Белсельтрэстам і ЦК КСУ у 2-х тыднёвы тэрмін распрацаваць практычныя мерапрыемствы аб адлічэньнях у фонд дапамогі дзецям батракоў і беднаты па лініі ўсёй сыстэмы кааперацыі і КСУ.

3. Савету Народных Камісараў даць дырэктыву АВК і РВК аб скарыстаньні фонду дапамогі дзецям батракоў і беднаты, а таксама і стыпэндый на аднолькавых умовах з зарплатай.

4. АК КП(б)Б прасачыць, каб АВК і РВК безадкладна прыступілі да загатоўкі вопраткі і абутку як за сродкі, нескарыстаныя ў гэтым навучальным годзе на гэтыя патрэбы, так і за конт папярэдніх асыгнаваньняў па наступны бюджэтны год, а таксама, каб фонды беднаты і стыпэндыі не драбіліся і выдаткоўваліся выключна па простаму прызначэньню на аднолькавых умовах з зарплатай.

5. АК і РК КП(б)Б прасачыць, каб вакол пытаньня найбольшага прыцягненьня ў школы дзяцей сельскагаспадарчых рабочых, калгасьнікаў, батракоў і вясковай беднаты і неабходнасьці дапамогі ім з мэтай зьнішчэньня адсеву са школы на працягу ўсяго навучальнага году была складзена шырокая грамадзкая думка. Пры ўцягненьні ў школы дзяцей асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўцягненьне дзяўчат.

6. РК і сельскім ячэйкам КП(б)Б гэтае пытаньне абгаварыць на шырокіх адчыненых партсходах на пасяджэньнях груп беднаты і сходах беднаты з такім разьлікам, каб яны (гэтыя пытаньні) увесь час стаялі ў асяродку ўвагі, як партыйных арганізацый, так груп беднаты і сходаў беднаты.

7. АК КП(б)Б пэрыодычна правяраць гэтыя дырэктывы, як праз жывое абсьледаваньне, так і шляхам заслухоўваньня дакладаў РК і ячэек КП(б)Б, фракцыі РВК і інспэктароў народнае асьветы.

8. Прапанаваць НК Асьветы да 1 студзеня праверыць выкананьне гэтых дырэктыў на мясцох і далажыць ЦК.



# Аб становішчы і рабоце парткалектыву Чашніцкай папяровай фабрыкі.

*(Пастанова ЦК ад 8-VIII-29 г.).*

Заслухаўшы даклад аб становішчы і рабоце парткалектыву папяровай фабрыкі „Чырвоная Зорка“ Чашніцкага раёну, Віцебскай акругі, Сакратарыят ЦК КП(б)Б адзначае наступныя недахопы:

1. Налічча яшчэ нядаўна такіх адмоўных сярод членаў парткалектыву зьявіш, як пьянства, недысцыплінаванасьць, адарванасьць ад партыі, кулацкае абрастаньне, сувязь з сельскай кулацкай гаспадаркай, зусім слабая пастаноўка ўнутрывыхаваўчай працы, неразуменьне значнай часткай членаў калектыву сутнасьці правага ўхілу і прымірэнчыя да яго адносін і праявы ў паасобных выпадках правага ўхілу на практыцы.

2. Адсутнасьць плянавасьці і агульная недастатковасьць працы па ўцягненьню ў партыю новых груп рабочых. Слабасьць ўцягненьня ў працу ўноў уступіўшых у партыю рабочых. Недастатковасьць масавасьці ў рабоце па ідэолёгічнаму, організацыйнаму і вытворчаму ўмацаваньню парткалектыву і як вынік гэтага—слабая актыўнасьць цэхячэек. Недастаткова ўмелае зжываньне хваравітых зьявішч у партколектыве, недастаткова ўмелае ачышчэньне фабрыкі ад разлажыўшыхся элемэнтаў, адсутнічаньне рабочай грамадзкай думкі навакол гэтых пытаньняў, што як сярод часткі беспартыйных рабочых, так і сярод часткі камуністаў выклікала зьніжэньне актыўнасьці і крыватолкі.

3. Недастатковасьць разгортваньня самакрытыкі як унутры парткалектыву, так і сярод беспартыйных рабочых; нячулыя адносіны да рабочых з боку фабрычнага „трохкутніка“; залішняя даверлівасьць з боку былога дырэктара да спэцыялістых; адрыў і бюрократычныя адносіны да мас, з боку старшыні фабкому, пры нэйтральных адносінах да гэтага факта з боку парткалектыву.

4. Недастатковасьць ўвагі рабоце цэх. ячэек, у выніку чаго яны яшчэ да гэтай пары не абярнуліся тварам да вытворчасьці. Члены партыі па-за парт. сходамі сябе не праяўляюць, у штодзенным жыцьці з масай ніякай работы не вядуць. Парторганізатары на прадпрыемстве не адчуваюцца, групавых агітатараў няма і ніякай працы па вырашчываньню нізавога актыву ня вядзецца.

5. Адсутнічаньне ўсякай працы сярод рабочых - камуністаў, якія жывуць ў вёсцы, зьвязаных з сельскай гаспадаркай, у выніку чаго яны сябе там як партыйцы нічым не выяўляюць. Наогул станоўчы ўплыў фабрыкі на акаляючае сялянства як праз беспартыйных рабочых, так і праз камуністаў не адчуваецца. У прыватнасьці, у справе рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і яе калектывізацыі ні парткалектыў цалкам, ні асобыя яго члены да гэтага часу ніякага ўдзелу ня прымаюць, у выніку чаго організацыя калгасаў праходзіць бяз удзелу парткалектыву фабрыкі, а рабочыя фабрыкі—члены партыі, маючыя зямлю, у справе організацыі калектываў ініцыятарамі не зьяўляюцца і ў калектывы, якія організуюцца бяз іх удзелу, не ўваходзяць.

6. Несуадпаведнасьць пастаноўкі масавай працы з умовамі вытворчасьці (і ў прыватнасьці, зьменамі), бытам і запатрабаваньнямі паасобных груп рабочых, адсутнічаньне якаснага вучоту груп рабочых і вучоту рабочых настрояў. Адсутнічаньне вучоту беспартыйнага рабочага актыву і працы з ім. Слабасьць працы грамадзкіх організацый. Адсутнічаньне антырэлігійнай прапаганды і якой-бы то ні было ўвагі

да яе з боку калектыву. Адсутнічаньне інтэрнацыянальнага выхаваньня рабочых, кампанейскі характар мерапрыемстваў па барацьбе з антысэмітызмам. Фармальна-парадная беларусізацыя і выпадковасьць нацработы сярод іншых нацыянальнасьцяй.

7. Слабасьць кіраўніцтва з боку парткалектыву камсамольскай арганізацыяй і адсутнічаньне дапамогі камсамольскаму калектыву з боку партпрымацаваных, у выніку чаго камсамольцы замыкаюцца ў вузкім коле і ня маюць ніякага ўплыву на беспартыйную рабочую моладзь. У выніку гэтага і рост камсамолу слабы.

8. Зусім недастатковa праводзіцца праца сярод жанчын, не рэгулярна склікаюцца дэлегацкія сходы, не прыцягваюцца работніцы да вырашэньня пытаньняў вытворчасьці дрэннае абслугоўваньне социяльнабытавых патрэб як саміх работніц, гэтак і жонак рабочых.

9. Абсолютную недастатковасьць выпісваемых газэт і асабліва партыйных органаў („Правда“ 4 экз., „Зьвязда“ 1 экз.).

10. Недастатковасьць кіраўніцтва вытворчымі камісіямі і нарадамі з боку парткалектыву, калі праца іх зводзіцца да разгляду выпадковых прапаноў. Адсутнічаньне сыстэматычнай прапрацоўкі і вывучэньня асноўных пытаньняў вытворчасьці.

Да социялістычнага спаборніцтва рабочыя былі не падрыхтаваны, але ў процэсе спаборніцтва праца не замацоўвалася. Растлумачальнай працы не вялося, спаборніцтва ішло пад лёзунгам „Хто больш“, ня гледзячы на якасьць, якая па некаторых гатунках паперы дала пагоршаньне. На ход спаборніцтва шкодна адбілася тэхнічная непадрыхтаванасьць прадпрыемства, якая зьявілася вынікам халатных адносін адміністрацыі к социялістычнаму спаборніцтву (няпрыняцьце своечасовых мер да загатоўкі ўпаковачнага жалеза, непрыстасаванасьць календароў і г. д.), у выніку чаго на вытворчасьці зьявіліся „вузкія месцы“, што штучна зьнізіла выпрацоўку асобных рабочых, павялічыла брак на 47%, скараціла выпуск з фабрыкі гатовай продукцыі.

На падставе гэтага Сакратарыят ЦК прапануе Бюро парткалектыву:

1) Шляхам узмацненьня ўнутрывыхаваўчай працы ў цэх'ячэйках і палепшаньня яе якасьці дабіцца ад парткалектыву агульнага яго ідэолёгічнага аздараўленьня і ад кожнага камуніста—чоткага ўсьведамленьня і яснага разуменьня карэньняў і сутнасьці правага ўхілу ў партыі і прымірэнчых да яго адносін, асабліва цьвёрда і своечасова рэагуючы на ўсе выпадкі праяў яго ў фабрычна-заводзкай практыцы. Дзеля гэтага правесьці прапрацоўку рашэньняў XVI парт. конфэрэнцыі УсеКП(б) і XII-га зьезду КП(б)Б. Пераглядзець сетку і комплектаваньне зімовых школ і гурткоў, прыстасаваўшы іх програму і рэглямэнт да ўзроўню і бытавых умоў партыйцаў, аж да організацыі палітшкол і гурткоў па месцу жыхарства больш менш значных груп рабочых-камуністаў і індывідуальных з імі палітзаняткаў. Дабіцца ад партыйцаў лепшага наведваньня гурткоў бягучай палітыкі.

2) У кіраўніцтве дзейнасьці цэх'ячэек выходзіць з вучоту статыстычных асаблівасьцяй іх умоў, у якіх ім прыходзіцца працаваць; колькасьць і якасьць парт. праслойкі, настроі асноўнага пралетарскага асяродку рабочых, ня зьвязаных з вёскай, сувязь іншай групы рабочых і сялянскай гаспадаркі і яе моцнасьць; зацікаўленасьць асобных груп рабочых вытворчасьцю, своецкія сувязі паміж асобнымі рабочымі цэху і ўплыў гэтых сувязяй, аказываемай на працу ў цэху. У цэнтры ўвагі цэх'ячэйкі павінны быць важнейшыя задачы партыі як-та: актыўны ўдзел у вытворчым жыцьці цэху, унутрывыхаваўчая праца, сыстэматычная праца з беспартыйным рабочым актывам, штодзеннае растлумачэньне рабочым задач партыі ў галіне социялістычнага будаўніцтва, вылучэньне парторганаў, груп-

оргаў, сельоргаў, групавых агітатараў і г. д.

3) Рашуча зжыць бессыстэмнасьць у справе вярбоўкі рабочых у партыю. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўцягненьне ў партыю рабочых. Нанаў уступаючых у партыю рабочых і работніц уцягваць у партыйна-грамадзкую працу, аказваючы ім дапамогу ў яе выкананьні. Пазьбягаць магчымасьці перагрузкі, але ствараць такія ўмовы, каб малады партыец адчуваў поўную адказнасьць за даручаную яму працу.

4) Выходзячы з умоў, у якіх знаходзіцца большая частка рабочых фабрыкі (моцная сувязь з вясковай гаспадаркай),—адпраўным пунктам у культурна-масавай працы сярод іх павінна быць клясава інтэрнацыянальнае выхаваньне. Пагэтаму існуючыя формы і мэтады працы павінны будавацца пад пунктам гледжаньня набліжэньня яе да ўзроўню ўмоў і быту рабочых паасобных цэхаў, зьмен і груп. У прыватнасьці ў месцах расьсяленьня больш компактных груп рабочых павінны быць адчынены чырвоныя куткі. На самой фабрыцы, побач з неабходнасьцю адчыненьня чырвоных куткоў павінны быць шырока скарыстаны перапынкі на палудзень, прыходу на зьмену і г. д. Трэба дамагчыся рашучага пералому ў справе павялічэньня выпіскі газэт як партыйцамі, так і беспартыйнымі рабочымі. Шляхам прыцягненьня ўвагі ўсёй рабочай масы і шляхам даручэньня гэтай справы найбольш актыўным грамадзкім працаўнікам, трэба ажыцьцявіць працу ТСА-Авіяхіму, Мопру, шэфтаварыства Бязбожніку і інш. грамадзкіх організацый.

5) У мэтах узмацненьня ўплыву фабрыкі на вёску як сярод рабочых, так і сярод камуністаў парткалектывам павінна весьціся сталая праца па папулярызацыі важнейшых задач, якія партыя ставіць у галіне сельскай гаспадаркі. Пагэтаму перад рабочымі-камуністамі, якія жывуць ў акаляючых вёсках і зьвязанымі з гаспадаркай, гэта задача павінна быць парткалектывам пастаўлена ў тым напрамку, што гэтыя камуністы ў справе рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, у справе яе калектывізацыі павінны быць ініцыятарамі і ва ўсіх выпадках, калі калгасы організуюцца, перад імі неабходна зараз-жа паставіць пытаньне аб практычным ажыцьцяўленьні імі дырэктывы партыі шляхам уступленьня ў калгасы. Рабочыя-камуністы фабрыкі, зьвязаныя з сельскай гаспадаркай, наогул, павінны быць у вёсцы піонэрамі ў справе правядзеньня ўсіх мерапрыемстваў, садзейнічаючых социялістычнай рэконструкцыі і палепшаньню сельскай гаспадаркі (новыя формы землякарыстаньня, агромінімум і г. д.).

6) Белбумтрэсту і ЦП Саюзу Папернікаў абгаварыць пытаньне аб палепшаньні бытавога абслугоўваньня рабочых фабрыкі, у прыватнасьці аб магчымасьці пабудовы там клюбу, забесьпячэньня амбуляторыяй, мэдыкамэнтамі і сталым доктарам, а таксама пабудовы для рабочых інтэрнату. Узмацніць працу па разгортваньню жыльлёва-каапэрацыйнага будаўніцтва навакол фабрыкі, больш чым да гэтае пары уцягваючу у гэтую справу і самых рабочых. Каапэрацыі рашуча палепшыць снабжэньне рабочых добраякаснымі продуктамі.

7) Ад адміністрацыйнага пэрсоналю фабрыкі дамагчыся больш чулых адносін да рабочых і іх заяў. Шырэй разгарнуць на прадпрыемстве эканом. працу ЦП Саюзу Папернікаў; з фактам грубых адносін да рабочых з боку старшыні фабкому зрабіць належныя організацыйныя вывады, высунуўшы на яго месца з ліку рабочых фабрыкі новага працаўніка.

8) У мэтах выхаваньня рабочых у інтэрнацыянальным духу, правесьці працу па папулярызацыі асноў нацпалітыкі партыі і савецкай улады і забясьпечыць абслугоўваньне асноўных груп рабочых на іх роднай мове. У мэтах-жа зьнішчэньня адной з перашкод, якая тармозіць замацаваньне саюзу рабочае клясы

з сялянствам,—парткалектыву прыняць рашучыя меры да ажыцьцяўленьня дырэктыў КП(б)Б па беларусізацыі.

9) Палепшыць кіраўніцтва працай камсамольскага калектыву фабрыкі шляхам перагляду складу партпрымацаваных, больш актыўнага ўдзелу іх у штодзённай працы КСМ-ячэек, і шляхам перанясеньня камсамолам сваёй масавай працы ў гушчы рабочай моладзі фабрыкі. Камсамолу зьвярнуць увагу на большае ўцягненьне ў свае рады работніц.

10) У працы сярод работніц калектыву завострыць ўвагу на наступных момантах: а) больш дэтальна падлічыць і бліжэй вывучыць жаночы актыў фабрыкі ў мэтах уцягненьня лепшых актывістак у партыю; б) забясьпечыць дэлегацкія сходы належнымі кіраўнікамі; в) адказнасьць за штодзенную працу дэлегацкіх сходаў ускласьці на аднаго з сяброў бюро; г) пасіліць ліквідацыю агульнай і палітычнай няпісьменасьці і малапісьменасьці; д) больш поўна прыцягваць работніц да вырашэньня пытаньняў вытворчасьці; е) больш рашуча паставіць пытаньне аб палепшаньні абслугаваньня социяльна-бытавых патрэб работніц і жонак рабочых; ж) больш пільна сачыць за недапушчэньнем парушэньня законаў аб ахове працы жанчын.

11) ЦК лічыць зусім недапушчальным правядзеньне социялістычнага спаборніцтва кампанейскім парадкам На социялістычным спаборніцтве павінна быць згрупавана ўвага ня толькі ўсяго партактыву, але і ўсёй рабочай масы фабрыкі Дзеля падняцьця энтузіязму мас, шырэй інфармаваць рабочых аб ходзе социялістычнага спаборніцтва і дасягнутых выніках. Дабіцца прыкладных адносін камуністаў да сваіх вытворчых абавязкаў. Высунуць на прадпрыемстве камуністаў — організатараў вопытных груп па рацыяналізацыі і груп для актыўнай практычнай працы па лініі вытворчых нарад. Больш шырока ўцягваць у працу вытворчых нарад беспартыйных рабочых і работніц і асабліва інжынэрна-тэхнічны пэрсональ. Наладзіць сваечасовае выкананьне і сталы вучот уносімых рабочымі прапаноў, шырэй папулярызуючы эфэкт, які атрымаўся ад іх рэалізацыі. Рашуча змагацца з хвасьцізмам і недобрасумленнымі адносінамі да вытворчасьці. Адміністрацыі сваечасова паклапаціцца аб забесьпячэньні ф-кі кваліфікаванай рабочай сілай і зжыць тэхнічныя недахопы, якія маюць уплыў на ход социялістычнага спаборніцтва.

12) Прызнаючы, што пасьпяховае зжываньне адзначаных недахопаў у працы зможа быць забясьпечана ў першую чаргу шляхам прыцягненьня да гэтай справы шырокай ініцыятывы і актыўнасьці ня толькі парткалектыву, але і ўсёй рабочай масы фабрыкі,—ЦК прапануе бюро парткалектыву прыняць меры да ажыцьцяўленьня ўнутры-партыйнай дэмократыі на справе і шырокага разгортваньня пралетарскай самакрытыкі сярод рабочых фабрыкі.

# Аб палепшаньні якасьці продукцыі і зьніжэньні сабекошту.

*(Пастанова ЦК КП(б)Б ад 9/VIII-29 г.).*

Заслухаўшы даклад аб выніках зьніжэньня сабекошту продукцыі прамысловасьці ВСНГ БССР, Бюро ЦК КП(б)Б канстатуе, што:

1) За першае паўгодзьдзе бягучага гасп. г. даныя аб выніках зьніжэньня сабекошту сьведчаць аб пагрозе поўнаму выкананьню дырэктывы аб 7-проц. зьніжэньньні, бо па ўсёй прамысловасьці зьніжэньне дасягае ўсяго 2,2 проц., прычым на некаторых прадпрыемствах намячаецца нават павышэньне сабекошту продукцыі („ф. Дзьвіна“, „Праф-

інтэрн" (папяровая), Акцябр (шклян.) Віцебская абутковая фабр. і інш. (параўнаўча з мінулым годам).

На працягу апошняга году выявілася разам з тым пагоршаньне якасьці прамысловай продукцыі па шэрагу асортымэнтаў. У некаторых выпадках зьніжэньне сабекошту адбывалася за кошт пагоршаньня якасьці, што зьяўляецца абсалютна недапушчальным.

2. Ставячы абавязковае выкананьне дырэктывы аб зьніжэньні сабекошту продукцыі, як галоўную задачу, якой павінна быць падпарадкована ўся гаспадарчая дзейнасьць прадпрыемстваў, Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што з боку трэстаў і прадпрыемстваў ня былі скарыстаны ўсе магчымасьці для зьніжэньня сабекошту продукцыі. Апошняя знаходзіць сваё адлюстраваньне ў наступным:

а) недастатковай ўвазе пытаньням рацыяналізацыі, барацьбы са стратамі на вытворчасьці, лепшай арганізацыі працы і несваечасовым пераглядам норм і расцэнак па шэрагу прадпрыемстваў, а таксама недастатковай мобілізацыі рэсурсаў прамысловасьці;

б) невыкананьні плянавых меркаваньняў па ўздыму прадукцыйнасьці працы і перавышэньню заработнае платы;

в) фармальных адносінах паасобных гаспадарнікаў да справы зьніжэньня сабекошту продукцыі і палепшаньня якасьці апошняй.

3) Паасобныя гаспадарнікі і профсаюзныя працаўнікі не скарысталі цалком для ўздыму вытворчасьці і зьніжэньня сабекошту продукцыі социялістычнага спаборніцтва, таксама і ў мэтах больш высокага ўзроўню продукцыйнасьці працы і працоўнай дысцыпліны. У шэрагу выпадкаў ня прымалася дастатковых мер да прыцягненьня да справы зьніжэньня сабекошту рабочай грамадзкасьці.

Социялістычнае спаборніцтва не знайшло дастатковага водгуку сярод тэхнічнага пэрсоналю, які ў значнай частцы застаўся індыфэрэнтным.

4) У шэрагу выпадкаў па социялістычнаму спаборніцтву, упачатку, зьніжэньне сабекошту і палепшаньне якасьці продукцыі не займала адпаведнага свайму значэньню мейсца. У выкананьні дагавораў пункт аб зьніжэньні сабекошту продукцыі зьяўляецца найбольш слабым. Выкананьне і перавыкананьне плянавых меркаваньняў па выпуску продукцыі адбіваецца ў некаторых выпадках на пагоршаньні якасьці продукцыі.

5) З боку профсаюзных органаў вакол пытаньня зьніжэньня сабекошту продукцыі не організавалася патрэбная ўвага рабочых. Вынікі зьніжэньня сабекошту і калькуляцыі не абгаварвалася на пасяджэньнях прафсаюзных органаў. Новыя кадры рабочых, якія ўцягнуты ў апошні час у прамысловасьць, слаба абслугоўваюцца політвыхаваўчай працай. Хвасьцісцкія паводзіны як з боку паасобных рабочых, гэтак і паасобных прафсаюзных працаўнікоў да справы зьніжэньня сабекошту ня сустракаюць заўсёды адпаведнага адпору. Кіраваньне нізавымі профорганамі ў справе ўдзелу іх у выкананьні пастаўленай задачы зьніжэньня сабекошту продукцыі на прадпрыемствах павінна быць узмоцнена.

6. Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што з боку партыйных органаў на мясцох у шэрагу выпадкаў наглядаецца недастатковае кіраўніцтва гаспадарчымі пытаньнямі. Асабліва гэта знаходзіць адбітак у справе зьніжэньня сабекошту, якая задача не пастаўлена ў асяродку ўвагі партыйных органаў. Праца ў гэтым напрамку праводзіцца недастаткова конкрэтна і калькуляцыі не абгаварваюцца на партсходах. Выпадкі хвасьцісцкіх настрояў сярод паасобных партыйцаў усё яшчэ маюць мейсца.

7. Папярэднія даныя ВСНГ сьведчаць, што па некаторых трэстах і прадпрыемствах у III квадры намеціўся перадом у лепшы

бок па выкананьню дырэктывы аб зьніжэньні сабекошту продукцыі. Адны гэтыя вынікі не гарантуюць яшчэ поўнага выкананьня дырэктывы аб 7% зьніжэньні сабекошту за 1928-29 гасп. год, для чаго патрэбна дасягненьне 12% зьніжэньня ў трэцяй і чацьвертай квадры.

8. Падкрэсьліваючы задачу поўнага зьніжэньня сабекошту продукцыі, як галоўную задачу гаспадарчай дзейнасьці прадпрыемстваў ВСНГ, трэстам і прадпрыемствам неабходна зьвярнуць максымальную ўвагу на поўнае выкананьне дырэктывы аб 7%-ным зьніжэньні сабекошту на працягу астаўшагася да канца году часу.

Да зьнішчэньня вызначаных у гэтай пастанове недахопаў павінны быць прыняты з боку гаспадарчых, профсаюзных і партыйных органаў усе меры, а таксама, як і да выкананьня маючыхся дырэктыў.

9. Бюро ЦК КП(б)Б прапануе ўсім партыйным фракцыям профсаюзных і гаспадарчых органаў падыходзіць да ацэнкі працы прадпрыемства і яго парт. проф. і гаспадарчых органаў з пункту гледжаньня выкананьня дырэктывы аб зьніжэньні сабекошту продукцыі. ВСНГ павінен прыняць рашучыя меры да ўзыску з боку дырэктароў тых прадпрыемстваў, якія ня выканалі дырэктывы аб зьніжэньні сабекошту.

10. Бюро ЦК КП(б)Б лічыць неабходным, каб усе гаспадарчыя, прафсаюзныя і партыйныя органы праверылі выкананьне і ўжыць мерапрыемствы па больш рашучаму правядзеньню ў жыцьцё пастаноў красавіковага Пленуму ЦК КП(б)Б аб продукцыйнасьці працы і працоўнай дысцыпліне.

# Аб становішчы жывёлагадоўлі і чарговых задачах па яго разьвіцьцю.

*(Пастанова ЦК КП(б)Б ад 9|VIII-29 г.).*

Ня гледзячы на неаднакратныя пастановы і дырэктывы партыйных органаў аб жывёлагадоўчым напрамку сельскае гаспадаркі БССР і неабходнасьці разгортваньня ў сувязі з гэтым адпаведных мерапрыемстваў, гэтыя дырэктывы слаба адбіліся ў практычнай працы савецкіх і партыйных організацый.

Асноўнымі прычынамі, якія перашкаджалі разьвіцьцю жывёлагадоўлі, зьяўляліся:

а) адсутнасьць сталага пляну працы ў сыстэме зямельных органаў, недастатковае асыгнаваньне крэдытаў нарэконструкцыйныя мерапрыемствы, поўная адсутнасьць вытворчай працы коопэрацыі па жывёлагадоўлі, нерашучы пераход у НКЗБ да вырашэньня племяннной справы (гэта пытаньне атрымала сваё вырашэньне толькі ў 1929 г.);

б) яшчэ да гэтага часу пытаньне жывёлагадоўлі не пастаўлена ў цэнтры працы ўсіх зямельных органаў, спэцыялістых сельскай гаспадаркі, савецкай грамадзкасьці і г. д.;

в) недарод зернавых і траў за апошнія два гады пры недастатковым завозе зернавых і концэнтраваных продуктаў з-за межаў Беларусі, дзякуючы чаму атрымалася некаторае разыходжаньне паміж цэнамі на продукты жывёлагадоўлі і расьлінаводзтва;

г) слабая організацыя рынку сбыту продуктаў жывёлагадоўлі, асабліва ў галоўных пунктах БССР і перапрацоўкі продуктаў малочнай гаспадаркі (усяго перапрацоўвалася 3% продукцыі);

д) адсутнасьць мерапрыемстваў па будаўніцтву буйных малочна-мясных форм і бэконных множнікаў па масавай вытворчасьці малочных і мясных продуктаў спажываньня вакол буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў;

е) слабая пастаноўка навукова-дасьледчай працы ў вырашэньні племяннцой справы кармовага пытаньня, недахоп спэцыялістых па жывёлаводзтву ў зямельных органах, с.-г. коопэрацыі, дзякуючы недастатковай колькасьці;

ж) недастатковая ўвага арганізацыі сіласаваньня кармоў, разьвіцьцю кораньплодаў і будаўніцтву заводаў па выпрацоўцы комбінаваных кармоў, утылізацыя адкідаў гарадзкіх прадпрыемстваў з мэтай павялічэньня кармовых рэсурсаў.

Выходзячы з сучаснага становішча жывёлагадоўлі, безадкладнага здавальненьня хутка растучых патрэб народнай гаспадаркі ў сырцы, продуктах спажываньня і непарыўнай сувязі жывёлагадоўлі з уздымам вытворчасьці сельскае гаспадаркі і яе калектывізацыі, Бюро ЦК КП(б)Б лічыць неабходным:

1) Неабходна, каб Наркамзем і Дзяржплан перагледзелі пяцігадовы плян разьвіцьця буйнай рагатай жывёлы, сьвінагадоўлі і птушкаводзтва з мэтай пашырэньня гэтых мерапрыемстваў на базе хутка разгортваючагася калгаснага і саўгаснага будаўніцтва.

2) Наркамзему, акрвыканкомам і сельска-гаспадарчай коопэрацыі паставіць працу па жывёлагадоўлі ў цэнтры ўвагі, прыстасаваўшы мерапрыемствы па расьлінаводзтву (севазвароты, вырасьліваньне кармовых траў, кораньплодаў, сіласаваньне і г. д.) да задач разьвіцьця жывёлагадоўлі.

3) Наркамзему, малочна-жывёлаводнай коопэрацыі праз саўгасы і калгасы запроэктаваць на 1929-30 г. будаўніцтва буйных малочна-мясных фэрм, бэконных множнікаў, птушкаводных заводаў і адкормачных пунктаў вакол буйных гарадоў з мэтай масавай-вытворчасьці малочна-мясных продуктаў, скарыстоўваючы пры гэтым апошнія дасягненьні навукі і тэхнікі.

4) Белсельтрэсту і Белкалгассаюзу на працягу двух гадоў давесьці стада буйнай рагатай жывёлы ў існуючых саўгасах і калгасах да нормы арганізацыйна вытворчых плянаў, праводзячы ў далейшым папаўненьне стада буйнай рагатай жывёлы ня болш як у два гады з моманту арганізацыі саўгасу ці калгасу.

5) Наркамзему разам з Навукова-Дасьледчым Інстытутам на працягу 3-х месяцаў зрабіць грунтоўнае абсьледваньне раёну распаўсюджваньня чырвонае беларускае жывёлы і іншых парод, прызнаных для масавага палепшаньня буйнай рагатай жывёлы з мэтай арганізацыі дзяржаўных запрэтнікаў. Савету Народных Камісараў устанавіць граніцы і парадак збыту, убою і контрактацыі жывёлы ў гэтых раёнах.

6) Наркамзему, Белкалгасаюзу і малочна-жывёлагадоўчай коопэрацыі ў раёнах масавага распаўсюджаньня племянной жывёлы прыступіць з гэтага году да арганізацыі буйных племянных гаспадарак, усіленьню зоотэхнічнага абслугоўваньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, контрактацыі ўсяго лепшага маладняка, забясьпечаньню концэнтраванымі кармамі і інш.

7) Забараніць усім саўгасам і калгасам забіваць племянны маладняк, увесьці, пачынаючы з 1929-30 году абавязковы зоотэхнічны нагляд на ўсіх разьніцах і ўбоечных пунктах і ўвесь небракоўны племянны і палепшаны матар'ял зьнімаць і накіроўваць для папаўненьня стад саўгасаў і калгасаў, з тэйжа мэтай арганізаваць скупку лепшых цялят ад гарадзкіх і местачковых кароў.

8) У мэтах пашырэньня кармовай базы лічыць неабходным:

а) на працягу 1929-30 году ВСНГ пабудаваць завод па выпрацоўцы кармовай касьцяной мукі, пры існуючых вінакураных заводах, двух заводаў па выпрацоўцы комбінаваных кармоў, пераводу аднаго з існуючых дрожджавых заводаў на апрацоўку кармавых дрожджаў.

б) Наркамзему, акрыканкомам і сельска-гаспадарчай коопэрацыі шырэй разгарнуць павярхлівае палепшаньне сенажацяй, закладкі сіласных

вышак і ям, пашырэньне засеву кармовых траў і караньплодаў;

в) спажывецкай коопэрацыі і Наркамгандлю арганізаваць утылізацыю адкідаў разьніц, гарадзкіх сталовых, хлебазаводаў. млынаў, піваварaных і іншых заводаў, прыняць меры арганізацыі ў гарадох буйных адкормачных пунктаў сьвіней, кароў і інш.

9. Наркамзему, сельска-гаспадарчай коопэрацыі і Наркамгандлю пашырыць мерапрыемствы па арганізацыі рынку збыту і перапрацоўцы продуктаў жывёлагадоўлі праз арганізацыю малочна-жывёлаводных таварыстваў у глыбінных пунктах рэспублікі, урэгуліраваньню цэн на продукты жывёлаводзтва (устойлівасьць цэн, аплату малака на заводах па жыру, прэміраваньне лепшых здатнікаў за якасьць і колькасьць), арганізацыя прадпрыемстваў па перапрацоўцы продуктаў жывёлаводзтва, урэгуліраваньню ўзаемаадносін паміж коопэрацыяй і саўгасамі пры перапрацоўцы продуктаў малочнай гаспадаркі.

10) Наркамзему ў месячны тэрмін распрацаваць закон аб зоотэхнічным мінімуме і ўнесьці ў Савет Народных Камісараў, зьвярнуўшы пры гэтым увагу на забесьпячэньне быкамі, уцяпленьне хлявоў, павялічэньне і палепшаньне кармовых умоў, палепшаньне якасьці жывёлы. СНК разгледзіць з такім разьлікам, каб гэты закон выкарыстаць у гэтую асеньнюю сельска-гаспадарчую кампанію.

11) Паставіць задачай партыйных, савецкіх і коопэрацыйных органаў на працягу гэтай пяцігодкі аднавіць усё сьвіное стада на палепшанае, хутка-сьпелае праз арганізацыю шырокай сеці сьвіных заводаў, сьвінрассаднікаў, злучпунктаў, прычым не павінна быць ніводнага саўгасу, калгасу і малочна-жывёлаводнага таварыства, у якім няма злучнага пункту.

12) Наркамзему, Белкалгаасаюзу пры складаньні арганізацыйна-вытворчых плянаў улічыць дапасаваньне буйнай рагатай жывёлы да сьвінагадоўлі, дабіўшыся масавай арганізацыі бэконных множнікаў з мэтай забясьпечаньня сыравізнай бэконнай фабрыкі.

13) Наркамгандлю шырока разьвярнуць працу па контрактацыі бэконных сьвіней, забесьпячэньню кантрактоўшчыкаў канцэнтрыраванымі кармамі, уцягваючы ў контрактацыю ў першую чаргу саўгасы, калгасы і бядняцка-серадняцкія колы вёсак.

14) Надаючы вялікае значэньне птушкаводзтву, лічыць неабходным ужыць наступныя мерапрыемствы:

а) на працягу бліжэйшых чатырох год пашырыць гэтую галіну гаспадаркі ў два разы,—замяніць ў асноўным простых кур на палепшаных;

б) арганізаваць на працягу двух бліжэйшых год ня менш васьмі буйных птушкаводных заводаў у саўгасах з масавай інкубацыяй птушкі.

в) на працягу чатырох год дабіцца будаўніцтва адкормачных пунктаў з вучотам ахопу ўсёй татаварнай продукцыі;

г) малочна-жывёлаводнай коопэрацыі разгарнуць працу па арганізацыі птушкаводнай коопэрацыі, рассаднікаў, множнікаў, будаўніцтву яйцаскладаў.

15) Навукова-дасьледчаму Інстытуту дабіцца рашучага палепшаньня навукова-дасьледчай справы ў галіне жывёлаводзтва кармавога пытаньня, зьвярнуўшы ўвагу ў першую чаргу на палепшаньне буйнай рагатай жывёлы, сьвінагадоўлі і аддзелаў па кармавых пытаньнях. СНК забясьпечыць у гэтым годзе будаўніцтва лябараторый пры сьвінаводнай станцыі і будаўніцтва станцыі буйнай рагатай жывёлы.

16) Наркамасьветы разам з Наркамземам і сельска-гаспадарчай Акадэміяй і Вэтінстытутам распрацаваць сталы плян падрыхтоўкі кадраў зоотэхнікаў з вышэйшай, сярэдняй і ніжэйшай адукацыяй у напрамку павялічэньня колькасьці і палепшаньня якасьці і пачаць

ажыцьцяўляць гэты плян з наступнага году.

17) Акругкомам, Райкомам праверыць выкананьне ранейшых дырэктыў акруговымі і раённымі організацыямі і ўстановамі ў галіне жывёлаводзтва і кармовага пытаньня, забясьпечыўшы разгортваньне працы ячэек сярод саўгасаў, калгасаў. бядняцка-серадняцкіх мас вёскі па палепшаньню сенажацяй, арганізацыі сіласаваньня, пашырэньня засёву кораньплодаў і палепшаньня жывёлагадоўлі.

18) Маючы на ўвазе жывёлаводны напрамак сельскай гаспадаркі БССР, лічыць неабходным паставіць гэтае пытаньне перад союзнымі органамі аб большым забясьпечаньні БССР концэнтраванымі кармамі, зернявымі прадуктамі, насеньнем траў, кораньплодаў, большымі асыгнаваньнямі сродкаў на жывёлагадоўлю і культуру балот.

## Аб мерапрыемствах па ўзмацненьню савгасаў.

*(Пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 16-VIII-29 г.).*

Бюро ЦК адзначае, што ў становішчы савгасаў за апошнія гады дасягнуты некаторыя посьпехі, як: некалькі павялічыліся асноўныя сродкі вытворчасьці, пашырыўся засеў гатунковым насеньнем, некаторыя савгасы паступова пачынаюць ужо зьяўляцца прыкладамі пераважнасьці буйнае гаспадаркі.

Аднак, зямельная плошча пад савгасамі ў адносінах да агульнае плошчы надта нязначная, дробнасьць паасобных гаспадарак у сувязі з чым савгасы займаюць нязначнае месца і ўдзельную вагу ў валавой і таварнай частцы продукцыі сельскае гаспадаркі.

ЦК адзначае, што з боку партыйных організацый, савецкіх установаў і Белсельтрэсту нездавальняюча выконваліся ранейшыя дырэктывы ЦК у прыватнасьці пастанова Сакратарыяту ЦК ад 8-III—28 г. аб узмацненьні савгаснага будаўніцтва, дзякуючы чаму ў становішчы савгасаў маюцца буйныя недахопы, галоўнейшымі з іх зьяўляюцца:

а) недастатковая і марудная мэханізацыя ўсіх галін сельскае гаспадаркі савгасаў і высокі сабекошт продукцыі. Прычым па асобных гаспадарках ня толькі няма зьніжэньня сабекошту, а нават маецца павялічэньне. З боку Белсельтрэсту і Саюзу Сельгаслесрабочых ня была разгорнута належная праца па зьніжэньню сабекошту продукцыі, гэта пытаньне не знаходзілася ў асяродку ўвагі як Белсельтрэсту, Саюзу, так і партыйных мясцовых організацый;

б) нізкая вытворчасьць і якасьць працы, слабы тэмп пераходу на зьдзельшчыну і г. д., з прычыны дрэннай організацыі працы, нездавальняючага правядзеньня мерапрыемстваў па падвышэньню кваліфікацыі рабочых і ўзьняцьцю сярод іх агрономічных ведаў. Дрэнныя кватэрныя ўмовы, дзякуючы недастатковаму і несвоечасоваму крэдытаваньню на жыльлёвае будаўніцтва і нізкая ў шэрагу месц якасьць самога будаўніцтва;

в) нізкі ў большасьці савгасаў продукцыйны і таварны ўзровень з прычыны слабай інтэнсыфікацыі, нізкая ўраджайнасьць, недастатковая ўдойлівасьць малочнае жывёлы, дзякуючы чаму бадай што ўсе савгасы, не маючыя тэхнічных прадпрыемстваў, яшчэ ня вышлі з дэфіцытнасьці.

Вялікі недахоп продукцыйнай жывёлы і нездавальняючы тэмп папаўненьня малочнае жывёлы.

Усё яшчэ значны недахоп зваротных і асноўных сродкаў вытворчасьці.

г) да апошняга часу амаль ва ўсіх гаспадарках адсутнічаюць організацыйныя пляны, дзякуючы чаму праводзімае будаўніцтва не заўсёды зьяўляецца рэнтабельным і г. д.;

д) ня выканана дырэктыва ЦК аб пашырэньні пасеўнай плошчы савгасаў (замест 6% пасеўная плошча гэтага году пашыралася толькі на 2,9%). Шэрагамі гаспадарак не праводзіцца агра-мінімум;

е) адзначаючы некаторае пашырэньне агра-вытворчай дапамогі ваколічнаму бядняцка-серадняцкаму сялянству ў вясновую пасеўную кампанію, аднак гэта дапамога зусім недастатковая, асабліва слаба праводзіцца праца па садзейнічаньню колектывізацыі і вытворчаму каапэраваньню;

ж) слаба пастаўлена масавая праца ў савгасах, праца рабачкомаў, вытворчых нарад, слабасьць працы партыйных ячэек як у справе ўздыму гаспадаркі, так і сярод рабочых савгасаў, з прычыны чаго савгасы не занялі яшчэ належнага месца, як асноўныя пралетарскія асяродкі на вёсцы.

Слаба і марудна разгортваецца социялістычнае спаборніцтва;

з) нездавальняючы якасны склад значнай часткі кіраўнікоў і спэцыялістых савгасаў і недапушчальна частая зьмена іх.

Выходзячы з гэтага, Бюро ЦК КП(б)Б лічыць неабходным:

1. Хутчэйшае правядзеньне мерапрыемстваў з боку СНК, НКЗ і Белсельтрэсту, каб у максымальна карокі тэрмін было праведзена ўзмацненьне існуючых савгасаў і поўнасьцю выкарыстаны іх магчымасьці ўператварэньні савгасаў у буйныя сельска-гаспадарчыя мэханізаваныя прадпрыемствы соцыялістычнага тыпу, у фабрыкі гатунковага насеньня, тэхнічных культур, племянной жывёлы і продуктаў шырокага спажываньня (малочныя продукты, гародніцтва, садоўніцтва і г. д.) у сапраўдныя асяродкі ператварэньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у буйныя калектыўныя гаспадаркі масавага вытворчага каапэраваньня.

Больш шырока організаваць адначасова агра-вытворчую дапамогу вакалічным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, распаўсюджваючы сярод іх навыкі абагульванае працы.

2. СНК і НКЗ прыняць рашучыя захады да ўзбуйненьня існуючых савгасаў і іх мэханізацыі, за лік прырэзкі зямель і аб'ядноўваючы сумежныя савгасы, а таксама перагледзець пяцігадовы плян савгаснага будаўніцтва ў бок павялічэньня плошчы для організацыі новых гаспадарак.

Распрацаваць мерапрыемствы па організацыі вакол гарадоў буйных малочных фэрм і агародаў.

3. Белсельтрэсту прыняць рашучыя захады па абавязковаму выкананьню вызначаных лімітаў пашырэньня пасеўных плошчаў у існуючых савгасах, падняцьцю ўраджайнасьці, а таксама рашуча дабівацца зьніжэньня сабекошту продукцыі і ўзьняцьця вытворчасьці ўва ўсіх галінах працы.

4. Адзначаючы вялікі недахоп продукцыйнай жывёлы ў савгасах, СНК неабходна прыняць захады, каб на працягу пяцігодкі было забясьпечана поўнае скарыстаньне кармавых рэсурсаў савгасамі. Распрацаваць пытаньне аб магчымасьці прыцягненьня сродкаў другіх організацый, як рабочая каапэрацыя і інш., на пашырэньне малочнае гаспадаркі ў савгасах.

5. Забясьпечыць савгасы, пачынаючы з прадстаячага бюджэтнага году, уласнымі зваротнымі сродкамі ў разьмерах, гарантуючых поўнае і бесьперабойнае выкананьне вытворчых плянаў савгасаў.

6. СНК і Белсельтрэсту прыняць рашучыя захады да палепшаньня бытавых умоў рабочых, а таксама палепшыць мэдыцынскую дапамогу рабочым з боку лекавых установ.

7. АК і РК КП(б)Б рашуча палепшыць партыйную працу ў савгасах, узмацніць кіраўніцтва савгаскім будаўніцтвам на мясцох і максымальна садзейнічаць росту савгасаў і выкананьню ўскладзеных на іх партыяй задач. Палепшыць падбор кіруючых кадраў савгасаў (кіраўнікі, старшыні рабачкомаў, сакратары ячэек КП(б)Б), ні ў якім выпадку не скарыстоўваючы тэхнічна-гаспадарчы апарат у час сэзонных работ на-

іншую працу, прыняць меры да замацаваньня кіруючага агранамічнага і гаспадарчага кадру на адным мейсцы ня менш 3-х год.

8. Фракцыі ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых рашуча палепшыць кіраўніцтва працай рабачкомаў, вытворчых камісій і нарад, садзейнічаючы ўздыму прац. дысцыпліны і вытворчасьці працы. Шырэй разгарнуць політыка-вытворчую і выхаваўчую працу сярод рабочых, адначасова пашыраючы соцыялістычнае спаборніцтва, адхіляючы з практыкі яго ўсе недахопы, сконцэнтраваўшы апошняе на грунтоўных канкрэтных задачах, сыстэматычна правяраючы выкананьне прынятых умоў.

9. Фракцыі ЦСПСБ перадаць рабочых, працуючых у тэхнічных прадпрыемствах трэставанай сеткі саўгасаў саюзу Сельгаслесрабочых.

10. Для ўзмацненьня кіруючых кадраў саўгасаў прапанаваць Аргаддзелу ЦК сумесна з Вясковым Аддзелам падабраць і накіраваць ня менш 20 падрыхтаваных камуністаў на работу ў саўгасы. Фракцыі ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых сумесна з НКЗ і Трэстам сыстэматычна праводзіць працу па падбору і вылучэньню лепшых рабочых саўгасаў і спэцыялістых на кіруючую працу ў саўгасы.

11. У мэтах падвышэньня кваліфікацыі кіраўнікоў і старэйшых рабочых організаваць ужо ў наступную зіму доўгатэрміновыя курсы, забясьпечыўшы іх работу належнымі ўмовамі, а таксама організаваць сталую работу па падвышэньню кваліфікацыі ўсіх рабочых саўгасаў.

12. Абавязаць АК і РК прапусьціць усіх партыйцаў саўгасаў у зімовы час праз політшколы, а таксама забясьпечыць узмацненьне выхаваўча-вытворчай асьветы сярод усіх рабочых саўгасаў. Палепшыць абслугоўваньне саўгасаў з боку хатчытальнень і раённых палітасьветных устаноў.

13. Адзначаючы слабае выкананьне дырэктыў XII зьезду аб узмацненьні вярбоўкі рабочых саўгасаў у партыю і пашырэньні сеткі партыйных ячэек, ЦК катэгорычна прапануе ўзмацніць выкананьне гэтых дырэктыў.

14. АК, РК КП(б)Б і фракцыі ЦП Саюзу Сельгасрабочых прыняць рашучыя захады да палепшаньня працы ў саўгасах, узмацніўшы кіраўніцтва працай партыйных ячэек, рабачкомаў і г. д., адначасова дамагаючыся пашырэньня ўплыву рабочых калектываў на ваколічнае бядняцка-серадняцкае насельніцтва.

## Аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі дэлегацкіх сходаў.

*(Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 13/VIII-29 г.).*

У пэрыяд мобілізацыі сіл і энэргіі рабочае клясы і шырокіх працоўных мас для выкананьня пяцігодкі, для вырашэньня задач індустрыялізацыі краіны, соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі, рашучага наступленьня на кулака і нэпмана, у пэрыяд абвастрэньня ваеннай небясьпекі перад парторганізацыяй паўстае вялікай важнасьці пытаньне—уцягнуць жаночыя рабоча-сялянскія масы ў актыўнае вырашэньне задач, якія стаяць перад партыяй і савецкай уладай, на аснове рашэньняў XVI партконфэрэнцыі ЦК УсеКП(б) і XII зьезду КП(б)Б.

Выходзячы з гэтага, перавыбары дэлегацкіх сходаў павінны праходзіць як самастойная, асаблівай важнасьці, політычная кампанія.

ЦК КП(б)Б прапануе парткомам завастрыць увагу ўсёй парторганізацыі, а таксама савецкіх, профэсіянальных, гаспадарчых і грамадзка-політычных організацый на рабоце дэлегацкіх сходаў, як організаваным зьвяне сярод работніц і сялянак.

Перавыбары дэлегацкіх сходаў павінны праходзіць пад лёзунгамі:

— Дэлегацкія сходы зьяўляюцца застрэльшчыкамі актыўнага ўдзелу жанчын у соцыялістычным спаборніцтве ў горадзе і на вёсцы.

— Рацыяналізацыі вытворчасьці, ўзьняцьце продукцыйнасьці працы і зьніжэньня сабекошту, за кваліфікацыю работніц у вытворчасьці, саўгасьніц і калгасьніц на вёсцы, за здаровы быт, барацьбу з прагуламі і п'янкай.

— Калектывізацыі вёскі, узьняцьця продукцыйнасьці і таварнасьці сельскае гаспадаркі, правядзеньня поўнасьцю агра-мінімуму, барацьбы з скажэньнямі савецкіх законаў, барацьбы з кулацтвам і падкулачнікамі, барацьбы з бюрократызмам і больш рашучага вылучэньня работніц і сялянак на кіруючую работу.

— За арганізаваны і рашучы адпор пролетарак, бяднячак у саюзе з серадняками — клясавым ворагам. За наступленьне на кулака і нэпмана.

— За пагалоўную ліквідацыю няпісьменнасьці.

— За ўзмацненьне інтэрнацыянальнага выхаваньня.

— За ўзмацненьне абароны краіны—максымальнае навучаньне жанчын вайсковай справе. Кожная дэлегатка і дэлегацкі сход зьяўляюцца застрэльшчыкамі і організатарамі ў справе ваенізацыі жанчын і падрыхтоўкі да абароны краіны.

— У падрыхтоўчай рабоце да перавыбараў дэлегацкіх сходаў ЦК КП(б)Б прапануе наступнае:

1. У мэтах узмацненьня партыйнага ўплыву і павышэньня актыўнасьці работніц і сялянак, якія заняты ў соцыялістычным сэктары нашай гаспадаркі ў перавыбарчую кампанію ўзяць установку на максымальнае набліжэньне організацыі дэлегацкіх сходаў ды прадпрыемстваў (фыбрыка, завод, цэх, зьмена) і соцыялістычнага сэктару ў вёсцы (саўгас, калгас, буйныя сельска-гасп. коопэрацыйныя об'яднаньні).

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на абхоп дэлегацкімі сходамі батрачак. Справаздачная кампанія дэлегатак павінна праходзіць пад пунктам гледжаньня выкананьня мэтавай установкі ў рабоце дэлегацкіх сходаў.

2. Для больш пасьпяховага правядзеньня перавыбараў дэлегацкіх сходаў, неабходна ўлічыць канкрэтныя асаблівасьці кожнага прадпрыемства, раёну, вёскі і г. д. з тым, каб палепшыць і конкрэтызаваць палітычнае кіраўніцтва гэтай кампаніяй (прымежныя раёны, налічча калгасаў, землямупарадкаваньня, наліччы парторганізацыі, жаночага актыву, налічча прадпрыемстваў у раёне, асаблівасьці мястэчак і ўлічваньне кулацкай праслойкі).

3. ЦК КП(б)Б зварочвае ўвагу парторганізацыі на неабходнасьць узмацненьня партыйнага ўплыву на працоўныя масы нацменшасьцяй праз дэлегацкія сходы (організацыя самастойных нацыянальных дэлегацкіх сходаў, сэкцый), забясьпечваючы пры гэтым строга клясавую лінію і парткіраўніцтва.

4. Склікаць інструкцыйныя нарады па лініі Жанаддзелаў ЦК, АК і Райкомаў, апошнія сумесна з кіраўнікамі дэлегацкіх сходаў і прадстаўнікам ўстаноў, да якіх былі прымацаваны дэлегаткі для практычнай работы.

5. Па лініі агульна-партыйнай прапрацаваць пытаньне аб выніках работы і перавыбарах дэлегацкіх сходаў на бюро і пленумах АК і РК партактывах і адкрытых партсходах ячэек.

6. ЦК ЛКСМБ памеціць канкрэтныя мерапрыемствы аб актыўным удзеле і дапамозе партыі ў перавыбарах дэлегатак.

7. Фракцыям ЦСПСБ, ЦВК і фракцыям Акрвыканкомаў прапрацаваць адпаведныя ўказаньні нізавым савецкім профэсыянальным і коопэрацыйным організацыям:

а) Аб праверцы работы прымацаваных дэлегатак і вылучэнак з мэтай адбору лепшых для далейшага прасоўваньня на кіруючую работу.

б) Конкрэтныя мерапрыемствы ўдзелу савету, профсаюзаў і коопэ-

рацыі ў перавыбарнай кампаніі дэлегацкіх сходаў, падрыхтоўка гэтага пытаньня на пленумах саветаў, праўленьнях саюзаў сумесна з жаночым актывам.

8. Наркамасьветы, Наркамаховы здароўя распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы аб прыстасаваньні работы дзіцячых установ на час справаздачна-перавыбарчай кампаніі (працягненьне рабочага дню, мобілізацыя працаўнікоў для абслугоўваньня аднадзённых дзіцячых установ). Тэрмін тыднёвы.

9. Белкоопсаюзу, Белсельсаюзу і Калгассаюзу даць дырэктывы:

а) Аб вызначэньні сродкаў і памяшканьняў для організацыі аднадзённых дзіцячых установ.

б) Аб прыстасаваньні работы копэрацыйных крам, сталовак і г. д. (па часу) да справаздачна-перавыбарчай кампаніі як у горадзе, так і на вёсцы.

10. Цэнтральным органам „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“, „Беларуская вёска“, „Рабочий“, „Октябрь“, „Орка“, „Беларуская работніца і сялянка“, мясцоваму друку (акруговым, фабрычным і насьценным газэтам), а таксама Акругкомам і Райкомам высьветліць перавыбары дэлегацкіх сходаў, як політычную кампанію.

Даручыць Белдзяржкіно і радыё адпаведным парадкам высьвятляць кампанію перавыбараў у кіно і па радыё.

11. Акругкомам і Райкомам правесьці вучот актыву старых дэлегатак з мэтай замацаваньня іх на практычнай рабоце і вылучэньня лепшай часткі на кіруючую работу ў саветы, коопэрацыю і профорганізацыі, уцягненьня старых дэлегатак ва ўсе віды вучобы (вытворчыя курсы, агульна - адукацыйныя курсы, політшколы і г. д.).

Улічыць актывістак дэлегатак— работніц, батрачак, саўгасьніц, калгасьніц і бяднячак для ўцягненьня іх у партыю, дзеля чаго організаваць з імі групавыя і індывідуальныя заняткі з прымацаваньнем да гэтай работы найбольш падрыхтаваных партыйцаў.

12. Акругкомам і Райкомам прыняць рашучыя меры да забесьпячэньня організацыі аднадзённых дзіцячых установ пры клюбах, школах, хатах-чытальнях і г. д.

Для мобілізацыі грамадзкай думкі і падняцьця аўторытэтнасьці дэлегатак, палепшаньня якаснага падбору і зьнішчэньня мэханічнага падбору дэлегатак ЦК КП(б)Б прапануе:

1. Папярэдня абгаварыць кандыдатуру дэлегатак на агульным і жаночым актыве (профэсіянальным, коопэрацыйным, савецкім, з батрачкамі і на групах беднаты).

2. АК, РК і ячэйкі на мясцох у працэсе перавыбараў павінны правяраць правядзеньне гэтай работы на мясцох і ў выпадку калі перавыбары праходзяць без патрэбнай мобілізацыі ўвагі мас і слаба падрыхтаваны кандыдатуры — выбары павінны быць адменены.

3. Перавыбарчую кампанію дэлегацкіх сходаў неабходна скарыстаць для вучоту політычнага настрою і практычных прапаноў шырокіх мас работніц і сялянак.

4. Акругкомам і Райкомам організаваць пераклічку паміж прадпрыемствамі, вёскамі і Райкомамі аб ходзе перавыбарчай кампаніі (падрыхтоўка да перавыбараў, мабілізацыя грамадзкасьці, удзел савецкіх, коопэрацыйных і профэсіянальных організацый і інш.).

5. Для дапамогі нізавым партыйным організацыям у правядзеньні перавыбараў дэлегатак, Акругкомам забясьпечыць жывое кіраўніцтва з боку ўсёй парторганізацыі і мобілізаваць групу адказных комуністаў і брыгад работніц для пасылкі на месца.

6. Прапанаваць аддзелу па працы на вёсцы даць указаньні шэфорганізацыям аб мобілізацыі актыву для дапамогі вёсцы ў перавыбарчай кампаніі дэлегацкіх сходаў.

7. Справаздачную кампанію закончыць да 15 верасьня. Усю работу па перавыбарах закончыць да 15 кастрычніка г. г.

# Палажэньне аб працы дэлегацкіх сходаў работніц і сялянак.

У пэрыяд хуткага тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва на аснове пяцігадовага пляну разьвіцьця цяжкае індустрыі, калектывізацыі вёскі, разгортваньня наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі ў умовах абвастрэньня клясавай барацьбы, абвастрэньня небясьпекі вайны, увага партарганізацыі павінна быць завострана на мабілізацыю ініцыятывы і дзейнасьці шырокіх мас работніц і сялянак, на вырашэньне задач, якія выходзяць з асаблівасьцяй данага пэрыяду рэконструкцыі (рацыяналізацыя, зьніжэньне сабекошту, падняцьцё прац. дысцыпліны і продукцыйнасьці працы, 3-ая пазыка індустрыялізацыі, сямігадзінны рабочы дзень, соцыялістычнае спаборніцтва ў горадзе і вёсцы, калектывізацыі вёскі, узьняцьцё ўраджайнасьці, правядзеньне аграмінімуму і г. д.).

Дэлегацкія сходы, як арганізаваная адзінка па рабоце сярод работніц і сялянак, зьяўляецца асноўнай формай працы, якая дае магчымасьць выкананьня паказаных задач.

Цэнтр цяжкасьці работы дэлегацкіх сходаў павінен быць перанесен на практычную работу дэлегатак, на падрыхтоўку кадраў, на вылучэньне актыву і організацыйнае яго замацаваньне. Работа дэлегацкіх сходаў павінна падрыхтоўваць перадавых дэлегатак, у першую чаргу работніц і батрачак, да ўступленьня ў рады партыі. Побач з гэтым неабходна мабілізаваць увагу ўсіх дэлегацкіх сходаў на работу па палепшаньню і абагуленьню быту работніц, батрачак і сялянак і на зьнішчэньне няпісьменнасьці шырокіх жаночых мас, у першую чаргу ўсіх дэлетак.

Перавыбары дэлегацкіх сходаў праводзяцца, як самастойная палітычная кампанія, парткомы павінны прыцягнуць да перавыбарнай кампаніі, як парторганізацыю цалкам, так масава-грамадзка-палітычныя організацыі (саветы, прафсаюзы, комсамол і г. д.).

Перавыбары дэлегацкіх сходаў павінны праходзіць з 15 верасьня па 1 лістапада, а падрыхтоўчая кампанія з пачатку жніўня.

### Пабудова дэлегацкіх сходаў.

1. Тэрмін працы дэлегацкіх сходаў вызначаецца гадавы. Праца дэлегацкіх сходаў канчаецца выпускам з падвядзеньнем ітогаў праробленай работы ў сэнсе ўцягненьня дэлегатак у практычную працу саветаў, профсаюзаў, каапэрацыі і г. д. Падняцьцё агульна-палітычнага ўзроўню дэлегатак і ўцягненьне дэлегатак у партыю і комсамол.

Выключэньне складаюць дэлегацкія сходы на вёсцы, якія пакінуты, як вопыт, на другі год работы. Перавод дэлегацкіх сходаў на 2-х-гадовы тэрмін работы праводзіцца па пастанове Акругкомаў партыі ня больш аднаго двухгадовага дэлегацкага сходу на раён.

2. Пры перавыбарах неабходна імкнуцца да абраньня дэлегатак сярэдняга ўзросту—ад 20 да 45 год (для забесьпячэньня найбольшай працаздольнасьці дэлегацкага сходу).

3. Для лепшай падрыхтоўкі работніц і сялянак да практычнай працы побач з новымі дэлегаткамі ў склад дэлегацкіх сходаў павінна пераабірацца частка дэлегатак папярэдняга складу (ня больш 10—15% усяго складу дэлегатак).

### Дэлегацкія сходы ў горадзе і на прадпрыемствах.

1. Самастойныя дэлегацкія сходы арганізуюцца пры партячэйках гарадзкіх прадпрыемстваў, маючых ад 100 і больш работніц, сельскіх прадпрыемстваў, маючых ад 50 і больш работніц.

З мэтай набліжэньня ўсёй практычнай работы дэлегатак да цэху неабходна пры наліччы ў цэху 200

і больш работніц організаваць самастойны дэлегацкі сход пры цэх. ячэйцы. Адказнасьць за яго работу нясе цэх. ячэйка.

На прадпрыемствах з зьменнымі работамі дэлегацкія сходы арганізуюцца па зьменам.

Для работніц дробных прадпрыемстваў, служачых устаноў і неарганізаваных жаночых мас, арганізуюцца дэлегацкія сходы пры райпарткомах і акругкомах.

2. Дэлегацкія сходы на прадпрыемстве аб'ядна̂юць работніц, служачых і жонак рабочых данага прадпрыемства.

*Увага.* У тых выпадках, калі дэлегацкія сходы работаюць на тэрыторыі прадпрыемства, куды ня могуць быць дапушчаны пастароньнія, жонкі рабочых данага прадпрыемства ўключаюцца ў адпаведныя раённыя дэлегацкія сходы.

3. У мястэчках, апрача зборных дэлегацкіх сходаў, у склад якіх уваходзяць работніцы, жонкі рабочых, саматужніцы і жонкі саматужнікаў, арганізуюцца дэлегацкія сходы для сялянак.

4. У дэлегацкія сходы абіраюцца радавыя, яшчэ не замацаваныя сыстэматычнай працай работніцы.

*Увага.* Абраньне ў склад дэлегатак камуністак і комсамолак, а таксама работніц, якія выконваюць тую або іншую работу па выбарах, немэтазгодна.

5. Дапушчаецца арганізацыя дэлегацкіх сходаў работніц, якія жывуць у вёсцы па мейсцы іх жыцьця пры наліччы ў раёне ня менш 30—50 работніц. Партарганізацыі павінны забясьпечыць кіраўніцтва гэтымі дэлегацкімі сходамі з боку адпаведных вытворчых ячэек. Такія дэлегацкія сходы, як правіла, арганізуюцца толькі з работніц, а для працы сярод сялянак данага раёну ствараюцца дэлегацкія сходы сялянак.

6. У вёсках, дзе працуюць дэлегацкі сход работніц і дэлегацкі сход сялянак, праводзяцца аб'яднаныя сходы дэлегатак па пытаньнях правядзеньня палітычных кампаній (перавыбары саветаў, каапэрацыі і с.-г. падатку, зьніжэньне цэн і г. д.) і рэволюцыйных сьвятаў.

7. Арганізацыі каротка-тэрміновых дэлегацкіх сходаў у раёнах сэзонных работ (торпараспрацоўкі, цагельныя заводы, саўгасы і г. д.).

Улічваючы асаблівыя ўмовы работы і быту хатніх работніц—разрашаецца арганізацыя асобных дэлегацкіх сходаў, прыстасаваных да абслугоўваньня гэтай групы работніц.

8. Норма прадстаўніцтва ў дэлегацкія сходы: ад работніц устаноў налічваецца 1 дэлегатка ад 5—10 альбо 3 работніц, у залежнасьці ад колькасьці работніц на даным прадпрыемстве.

*Увага.* Адхіленьне ад нормы ўстанаўліваецца мясцовым парткомам пры зацьверджаньні пляну перавыбараў дэлегацкіх сходаў.

9. Для жонак рабочых і для служачых норма прадстаўніцтва ўстанаўліваецца кожны раз парткомам на мясцох з тым разьлікам, каб большая частка ў дэлегацкіх сходах складалася з работніц і ў гарадох малапрамысловых і непрамысловых работніц, ніжэйшых служачых, хатніх работніц і саматужніц. Толькі ў асобных выпадках ў раёнах з нязначнай колькасьцю работніц, магчыма арганізацыя дэлегацкіх сходаў з перавагай жонак рабочых. Усякі раз з дазволу Акругкому.

10. Дэлегаткі абіраюцца на агульных сходах работніц прадпрыемстваў (а там, дзе гэта мажліва і на сумесных сходах работніц і рабочых) на агульных сходах служачых устаноў, на агульных сходах жанчын саматужных арцеляў, на раённых альбо на агульна-гарадзкіх сходах хатніх работніц і жонак рабочых.

11. Для кіраўніцтва і праверкі практычнай работы прымацаваных дэлегатак, пэрыядычна (не радзей 1 раза ў 2 мес.) склікаць групавыя нарады дэлегатак па асобных відах іх практычнай работы пад кіраўніцтвам дэлегацкага сходу, фракцыі адпаведнай організацыі.

### Дэлегацкія сходы на вёсцы.

1. Дэлегацкія сходы сялянак могуць організоўвацца:

а) у вёсках, дзе ёсьць сельячэйкі альбо раённы камітэт партыі;

б) у вёсках, дзе ёсьць вайсковыя ячэйкі;

в) у вёсках, дзе райком альбо бліжэйшая ячэйка могуць кіраваць праз асобных камуністых;

г) у вёсках, дзе дэлегацкія сходы сялянак могуць сыстэматычна абслугоўвацца шэфствуючай ячэйкай;

д) у буйных савгасах і калгасах, а таксама пры куставых аб'яднаных калгасах, прычым работай дэлегацкіх сходаў у калгасах, дзе няма ячэйкі, кіруе бліжэйшая ячэйка ці райком КП(б)Б;

е) адказнасьць за працу д/с у вёсках, дзе няма яч., нясе бліжэйшая ячэйка альбо райком партыі.

2. Дэлегацкія сходы арганізуюцца на вёсцы з радыусам 1—1½ вярсты.

3. З мэтай уцягненьня ў выбары, у работу дэлегацкіх сходаў найшырэйшых мас сялянак, выбары дэлегатак праводзяцца на сходах сялянак па кварталах вёскі альбо па вучастках вёскі (20—50 хат). Пры наліччы ў данай мясцовасьці сельска-гаспадарчых камун і арцеляў, выбары дэлегатак у дэлегацкія сходы праводзяцца ад кожнага данага калектыву асобна.

4. Як правіла, дэлегатка абіраецца на сходах сялянак. Аднак, у вёсках, дзе ёсьць мажлівасьць правесьці больш падрыхтоўчую работу, рэкамэндуецца праводзіць выбары дэлегатак на агульных сялянскіх сходах.

5. Для шырэйшага абхвату дэлегацкімі сходамі батрачак, неабходна сумесна з саюзам Рабземлес арганізаваць выбары дэлегатак ад іх на спэцыяльных сходах батрачак данага раёну і зьнізаць для іх норму прадстаўніцтва 1 ад 2-3-х. Пры нязначнай колькасьці батрачак у раёне, дзе працуюць дэлегацкія сходы, усе батрачкі, па мажлівасьці, поўнасьцю ўключаюцца ў дэлегацкі сход.

6. Пры партячэйках саўгасаў і калгасаў арганізуюцца самастойныя дэлегацкія сходы пры наліччы работніц альбо калгасьніц ня менш 15—20 чалавек, прыцягваючы да іх жонак рабочых саўгасаў і сялянак акаляючых вёсак. Норму выбараў устанаўлівае мясцовы Парткамітэт.

Дзе нельга організаваць самастойныя дэлегацкія сходы, работніцы і жонкі работніц савгасаў і калгасьніцы ўключаюцца ў бліжэйшы дэлегацкі сход сялянак па тэйжа норме.

7. Дэлегацкія сходы сялянак складаюцца з дэлегатак бядняцкіх, батрацкіх і серадняцкіх слаёў вёскі. Пажадана прыцягнуць у склад дэлегацкіх сходаў аддзельных асоб, блізка стаячых да партыі і савецкай улады—сельскай інтэлігенцыі (настаўніц і г. д.).

8. У раёнах саматужных жаночых промыслаў (за выключэньнем раёнаў з мэханізаванай вытворчасьцю, асобныя дэлегацкія сходы для саматужніц не арганізоўваюцца, а саматужніцы ўцягваюцца ў дэлегацкія сходы сялянак.

9. Норма прадстаўніцтва ад сялянак устанаўліваецца на мясцох Акругкомам альбо Райкомам з такім разьлікам, каб колькасьць дэлегатак вясковага сходу была ня менш 30 асоб.

У вёсках, дзе склікаюцца дэлегацкія сходы, магчыма абраньне большай колькасьці дэлегатак, чым у акаляючых.

10. Для забесьпячэньня клясавага ўплыву дэлегатак-батрачак у дэлегацкім сходзе, а таксама для лепшага абслугоўваньня батрачак і для прыцягненьня іх да профэсыйнай работы, пры дэлегацкіх сходах сялянак ствараюцца (пры наліччы 5 батрачак) прафэсійныя сэкцыі батрачак, кіраўніцтва якімі ячэйкі ажыцьцяўляюць разам з ворганамі саюзу Рабземлес.

11. У гарадох, у вёсках з розным нацыянальным складам дэлегацкія сходы арганізуюцца па прынцыпу мовы, асаблівую ўвагу належыць зьвярнуць на арганізацыю польскіх

дэлегацкіх сходаў, якія павінны арганізоўвацца ў кожным польскім сельсавеце, дзе забясьпечана парткіраўніцтва. Там, дзе нельга арганізаваць самастойныя дэлегацкія сходы, нацменкі ўцягваюцца ў агульныя дэлегацкія сходы і з іх арганізуюцца асобныя групы на роднай мове з захаваньнем пэрыядычных агульных сходаў дэлегатак усіх груп.

### Праца дэлегацкіх сходаў.

1. Дэлегацкія сходы склікаюцца не радзей 1—2 разоў у месяц. Аб'яднаныя сходы, альбо канфэрэнцыі дэлегатак гораду ці раёну па асобных пытаньнях склікаюцца прыблізна 1 раз у 3 месяцы.

2. Работа д/с вядзецца па пляну, які намячаецца кіраўнікам д/с, у адпаведнасьці з плянам работ мясцовых арганізацый (партяч., фабкому, с./с., савгасу, камуны і г. д.).

3. У асноўным у плян работы дэлегацкіх сходаў павінны быць уключаны пытаньні практычнага правядзеньня ў жыцьцё 5-цігадовага пляну данага прадпрыемства, у с/с, савгасу, калгасу, м-ку, з тым каб дэлегацкі сход цалкам і дэлегаткі паасобна былі ўцягнуты ў практычнае правядзеньне у жыцьцё мерапрыемстваў, накіраваных на выкананьне 5-цігодкі (рацыяналізацыя, рэканструкцыя прамысловасьці, праблема ўзьняцьця ўраджайнасьці, калектывізацыі, вытворчае каапэраваньне, кантрактацыя, земляўпарадкаваньне і г. д.).

4. Пытаньні праграмы д/с зьяўляюцца тэорытычным завяршэньнем практычных навыкаў дэлегатак і павінны быць падпарадкаваны ўсёй практычнай рабоце д/с. Цэнтр цяжкасьці работы д-с павінен быць перанесен на практычную работу.

5. У адпаведнасьці з перабудовай работы д/с (у бок пераносеньня цэнтру цяжкасьці на практычную работу) павінна быць зьменена сыстэма кіраўніцтва практычнай работы дэлегатак. Адказнасьць за правільную арганізацыю і пастаноўку работы прымацаваных дэлегатак ускладаецца на фракцыю адпаведнай арганізацыі (куды прымацаваны дэлегаткі) і кіраўніка д/с. Асноўнае кіраўніцтва пастаноўкі практычнай работы дэлегатак ускладаецца на кіраўніка д/с.

6. Плян работы д/с складаецца па-квартальна (3-6 месяцаў). У аснову пляну на гэты пэрыяд павінна быць пакладзена 1-2 актуальных задачы, выходзячы з вучоту асаблівасьцяй тых мясцовасьцяй, дзе працуе д/с. Дэлегацкі сход павінен падпарадкаваць усю сваю работу выкананьню асноўнай задачы (мэтавай устаноўцы) квартальнага пляну на даны пэрыяд.

7. Пасьля дакладу па практычных пытаньнях выносяцца рэзалюцыі, да складаньня якіх прыцягваюцца самі дэлегаткі. Партарганізацыі сачаць за жыцьцёвасьцю вынасімых рэзолюцый і за іх правядзеньнем у жыцьцё. Асноўнымі выканаўцамі рэзолюцый павінны быць самі дэлегаткі, прычым з саміх дэлегатак па кожнаму пытаньню вылучаецца камісія для праверкі выкананьня рэзолюцыі і інфармацыі дэлегацкага сходу аб выніках работы.

8. Кожная дэлегацыя павінна мець практычную нагрузку з вучотам бытавых умоў вытворчых інтарэсаў і здольнасьцяй. Практычнай нагрузкай для няпісьменных дэлегатак зьяўляецца ліквідацыя няпісьменнасьці, для чаго арганізуюцца пры дэлегацкіх сходах лікпункты.

9. Для практычнай работы дэлегаткі прымацоўваюцца да Саветаў, іх камісій і сэкцый, да розных устаноў і арганізацый (больніцы, школы, дзіцячыя ўстановы), ФЗМК і яго камісій, каапэрацыйных арганізацый, КСУ, добраахвотных таварыстваў і г. д.

Практычная работа прымацаваных дэлегатак павінна быць максімальна ўвязана з работай па выкананьню мэтавай устаноўкі д\с.;

а) Дэлегаткі-работніцы для практычнай работы прымацоўваюцца у асноўным да арганізацый і ўстаноў на самым прадпрыемстве, галоўным

чынам, да вытворчых камісій, штабаў па правядзеньню социялістычнага спаборніцтва, фабкому, цэхпрафбюро і да іх камісіі, рацыяналізатарскіх груп і гурткоў, лаўкамісій, да камісіі па рэалізацыі пазыкі. Практычная работа дэлегатак работніц павінна быць максімальна наблізкана да прадпрыемства, цэху, у якім працуе даная работніца, Гарсавету, ЦРК, і г. д. Па-за прадпрыемствам прымацоўваюцца найбольш падрыхтаваныя дэлегаткі работніцы.

б) Практычная работа дэлегатак на вёсцы, выходзячы з вучоту канкрэтных асаблівасьцяй данага раёну, павінна быць накіравана на вырашэньне практычных задач па калектывізацыі і ўзбуйненьню існуючых калгасаў і савгасаў, арганізацыі каапэрацыйна-вытворчых аб'яднаньняў (малочныя т-вы, машынныя т-вы, с.-г. арцелі і г. д.) ажыцьцяўленьня аграмінімуму, узьняцьця вытворчасьці і таварнасьці сельскае гаспадаркі, соцыялістычнага спаборніцтва. Гэтай-жа задачы падпарадкоўваецца і работа сэкцый пры д/с на вёсцы, выходзячы з вытворчых інтарэсаў асобных груп дэлегатак.

в) Дэлегаткі з работніц, якія жывуць у вёсках, прымацоўваюцца да практычнай працы як на самым прадпрыемстве, так і сельсавету, яго сэкцыі, школы, ФЗМК, яго камісій і г. д. Жонкі рабочых выкарыстоўваюцца на практычнай працы па лініі саветаў, каапэрацыі, ТДА-Авіяхіму і інш. добраахвотных т-ваў і ні ў якім разе не па лініі профсаюзаў, Нардамоў, Дамоў Селяніна, с.-г. гурткоў, дамаводзтва і інш. культурных ачагоў вёскі.

12. Дэлегаткі, прымацаваныя да практычнай працы с-с. і іх сэкцый, працуюць на працягу ўсяго пэрыяду паўнамоцтва данага савету. Да саветаў прымацоўваюцца найбольш падрыхтаваныя і актыўныя дэлегаткі, незалежна ад працы дэлегатак мінулага складу ў Саветах, новыя дэлегаткі павінны зараз-жа пасьля выбараў прымацавацца да саветаў іх сэкцый для практычнай работы.

13. Аднэй з важных задач д/с зьяўляецца правядзеньне працы па палепшаньню і зьмяненьню быту работніц і сялянак (удзел у арганізацыі ясьляў, садоў, сталовых і г.д. і дапамога палепшаньню працы ў існуючых).

14. Партарганізацыі сумесна з фракцыямі савецкіх прафэсыйных і інш. арганізацый, да якіх прымацаваны дэлегаткі, прымаюць меры для большага пашырэньня мажлівасьцяй практычнай работы дэлегатак і яе палепшаньня, сыстэматычна правяраючы пастаноўку практычнай працы дэлегатак, дапамогу і кіраўніцтва імі, з вучотам больш здольных для вывучэньня.

15. Дэлегаткі прыцягваюцца да чытаньня часопісаў „Беларуская работніца і сялянка", „Работніца", „Сялянка" і газэт з дэлегатак і з іх дапамогай вярбуюцца падпісчыкі для часопісаў і рабселькоркі. Дэлегаткі рабселькоркі павінны ўключацца, як правіла, у агульныя рабселькораўскія гурткі альбо ў сэкцыі друку. Апрача гэтага гуртку, як правіла ні ў якія гурткі і школы палітграматы не ўключаюцца.

16. Партарганізацыі забясьпечваюць дастатковае кіраўніцтва ў рабоце д/с шляхам:

а) падбору падрыхтаваных кіраўнікоў для правядзеньня ўсёй працы дэлег. сходаў;

б) сыстэматычнага мэтадычнага кіраўніцтва працаўнікамі, якія абслугоўваюць д/с;

в) кіраўніцтва д/с ускладаецца на больш падрыхтованую і здольную партыйку для гэтай работы (альбо партыйца), і як правіла, данага прадпрыемства, сельячэйкі. Асаблівае значэньне мае ў рабоце д/с на прадпрыемствах, азнаямленьне кіраўніка д/с з жыцьцём і работай работніцы фабрыкі, заводу з тым, кам палепшыць якасьць кіраўніцтва практычнай работы д/с.

17. Парторганы на мясцох ужываюць ўсе меры да падрыхтоўкі і сыстэматычнага ўцягненьня ў партыю лепшых дэлегатак, асабліва работніц і батрачак (індывідуаль-

ная групавая апрацоўка і прыцягненьне на адчыненыя сходы).

18. Для абмену вопытам паміж д/с арганізаваць пераклічкі-спаборніцтва на лепшае выкананьне мэтавай ўстаноўкі з высьвятленьнем у друку (мэтады і формы работы д/с, як д/с арганізуе работніц і сялянак навакол асноўных задач партыі і Савецкай Улады, як увязана работа д/с з работай саветаў, прафсаюзаў каапэрацыі, шэфтаварыстваў і г. д.).

19. Дэлегацкі сход вызначае дэлегатак для агітацыі і арганізацыі з работніц і сялянак гурткоў ТДА-Авіяхэму. Вызначаныя дэлегаткі для гэтай работы аслабаняюцца ад іншай нагрузкі.

### Арганізацыя сувязі дэлегатак з абіральніцамі і вылучэнкамі.

Сувязь дэлегатак з абіральніцамі ажыцьцяўляецца шляхам:

а) масавых справаздачных кампаній, праводзімых два разы ў год;

б) праверкі з боку абіральніц (праз асобныя камісіі) практычнай работы дэлегатак у тэй ці іншай арганізацыі (савет, яго сэкцыі, ФЗК і г. д.);

в) штодзённых гутарак дэлегатак з абіральніцамі па пытаньням, якія прапрацоўваюцца на дэлегацкім сходзе;

г) пастаноўкі дэлегаткамі на абмеркаваньне дэлегацкага сходу пытаньняў, якія асабліва цікавяць абіральніц.

Для сувязі вылучэнак работніц і сялянак з работай дэлегацкага сходу неабходна ставіць даклады, гутаркі аб іх рабоце на дэлегацкім сходзе, а таксама прыцягваць іх да кіраўніцтва практычнай работай дэлегацкіх сходаў.

### Арганізацыя работы з дэлегаткамі мінулага скліканьня.

Для замацаваньня кадраў старых дэлегатак неабходна:

а) прасоўваць дэлегатак на вучобу (вытворчыя і агульна-адукацыйныя курсы, палітшколы, рабфакі і г. д.);

б) прыцягваць старых дэлегатак па асобна-важным пытаньням на д/с;

в) замацаваць іх на практычнай і выбарнай рабоце ў саветах, прафсаюзах;

г) лепшую частку з работніц, батрачак, саўгасьніц, калгасьніц, бяднячак уцягваць у партыю шляхам прыцягненьня іх на адкрытыя партсходы, арганізоўваць падрыхтоўку для ўступленьня ў партыю (індывідуальныя, групавыя гутаркі, навучэньне і г. д.);

д) уключыць работу з старымі дэлегаткамі ў сыстэму работы з жаночым актывам (нарады, сходы і г. д.)

### Вучот работы дэлегацкага сходу.

Для вучоту работы асобных дэлегатак і ўсяго дэлегацкага сходу:

а) кожнай дэлегатцы выдаецца білет (узор Ц. А.) і на ім вядуцца адзнакі аб рабоце дэлегаткі. Дэлегаткі, не наведаўшыя 3 разы бяз уважлівых прычын дэлегацкага сходу, пераабіраюцца;

б) вядуцца дзеньнікі работы дэлегацкага сходу;

в) вядуцца ітогі праведзенай работы і ў тэрміны і па формах, якія паказаны статаддзелам ЦК сумесна з Аддзелам Работніц;

г) вучот работы дэлегацкага сходу павінен праводзіцца па-квартальна, пад кутком праверкі выкананьня мэтавай устаноўкі дэлегацкага сходу з абмеркаваньнем якасных вынікаў на сходах дэлегатак, бюро ячэек і РК.

## Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб партрабоце ў саўгасах і калгасах.

*(26/VIII 1929 г.)*

Адзначыць, што дырэктывы ЦК і XII зьезду КП(б)Б аб узмацненьні вярбоўкі ў партыю рабочых саўгасаў і лепшых калгасьнікаў, аб пашырэньні сеткі партыйных ячэек у саўгасах і калгасах амаль што ўсімі парт. арганізацыямі выконваюцца нездавальняюча. Асабліва незда-

вальняюча ўцягваюцца ў партыю сельска-гаспадарчыя работніцы і калгасьніцы.

Дырэктывы ЦК аб узмацненьні росту і пашырэньні сеткі ячэек у саўгасах і калгасах у большасьці ячэек не прапрацованы, а ў шэрагу месц гэтыя дырэктывы нават не даведзены да ячэек.

Хаця за апошні год і дасягнута некаторае палепшаньне партыйнае работы ў саўгасах і калгасах, аднак у працы саўгаскіх і калгаскіх ячэек маюць месца шэраг буйных недахопаў, а менавіта:

1. Ячэйкі не сконцэнтравалі сваёй увагі і працы на пытаньнях гаспадарчага ўзмацненьня, палепшаньня становішча і працы саўгасаў і калгасаў. Мала зварочваецца ўвагі на пытаньні зьніжэньня сабекошту продукцыі, узьняцьця вытворчасьці працы, амаль ня кіруюць яч. саўгасаў працай вытворчых нарад. Ячэйкі ў калгасах надта мала займаюцца пытаньнямі абагуленьня сродкаў вытворчасьці, павялічэньня недзялімых капіталаў, узбуйненьня калгасаў, узмацненьня агрыкультурнага ўплыву на ваколічныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі. Ячэйкі ў большасьці ня сталі на чале кіраўніцтва сацыялістычным спаборніцтвам.

2. Аднэй з галоўнейшых прычын слабой працы большасьці ячэек зьяўляецца нізкі політычны і культурны ўзровень складу іх. Не прапрацаваны ў большасьці ячэек асноўныя рашэньні партыі (XVI конфэрэнцыя ЎсеКП(б), XII зьезд КП(б)Б і інш.). Мала выпісваюць газэт. Дзякуючы чаму ў шэрагу ячэек маюць месца хваравітыя з‘явішчы—п‘янства, склокі, няпрыкладанасьць у працы, скрыўленьне клясавай лініі і г. д.

3. Нездавальняюча ў большасьці пастаўлена культасьветная праца як сярод рабочых саўгасаў, так і калгасьнікаў. Хаты-чытальні, раённыя палітасьветныя ўстановы надта слаба яшчэ абслугоўваюць саўгасы і калгасы (бібліятэкі, кіно, радыё, лекцыі, даклады і г. д.).

4. Кіраўніцтва працай ячэек, інструктаваньне і практычная дапамога з боку РК і АК КП(б)Б яўна недастатковае.

Выходзячы з неабходнасьці рашучага палепшаньня партпрацы ў саўгасах і калгасах, ЦК лічыць неабходным:

1. Акругкомам і РК КП(б)Б у двухмесячны тэрмін праверыць ступень выкананьня дырэктыў ЦК і сваіх аб узмацненьні вярбоўкі ў партыю рабочых і работніц саўгасаў, лепшых калгасьнікаў і аб пашырэньні сеткі ячэек у саўгасах і калгасах, забясьпечыўшы поўнае выкананьне паказаных дырэктыў, дзеля чаго:

а) У найбольш кароткі тэрмін разгледзець заявы аб прыёме ў партыю, паданыя у час чысткі вясковых ячэек. Камандыраваць у саўгасы і калгасы сяброў РК, АК і іншых адказных працаўнікоў як для інструктаваньня і дапамогі ячэйкам, так і для вывучэньня падаўшых заявы і дачы ім рэкомэндацый.

б) Перагледзець склад вясковых ячэек у бок павялічэньня колькасьці іх ў калгасах і саўгасах за лік камуністаў—калгасьнікаў і рабочых саўгасаў, організоўваючы пры немагчымасьці мець ячэйку, кандыдацкія групы.

Паставіць задачай, каб да канца бягучага году ўсе буйныя калгасы былі ахоплены сеткай партыйных ячэек.

2. Узмацняючы работу па ўцягненьню ў партыю с.-г. рабочых і калгасьнікаў і пашыраючы сетку ячэек, адначасова неабходна рашуча палепшыць усю працу існуючых ячэек і кіраўніцтва імі. Дамагчыся, каб ячэйкі ў сапраўднасьці сталі на чале кіраўніцтва працай і жыцьцём саўгасных і калгасных гаспадарак, каб апошнія ў значна большай меры садзейнічалі далейшаму разгортваньню працы па калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

3. Асноўны цяжар практычнай працы саўгаскіх і калгаскіх ячэек патрэбна сконцэнтраваць на зьніжэньні сабекошту продукцыі, узь-

няцьця продукцыйнасьці працы, палепшаньне працы вытворчых нарад і г. д. і ў калгасах—на-большае абагульненьне сродкаў вытворчасьці, павялічэньне недзялімых капіталаў, палепшаньне ўнутранага распарадку, узбуйненьне існуючых калгасаў і г. д.

Для выкананьня гэтых задач неабходна:

а) РК і АК КП(б)Б палепшыць кіраўніцтва і практычную дапамогу ячэйкам у іх працы як шляхам сыстэматычнага інструктаваньня, інструктарскім складам парткомаў, так і праз рэгулярныя на больш доўгі тэрмін выезды членаў РК і АК; узьнімаючы актыўнасьць і самадзейнасьць мас на аснове шырокай самакрытыкі і рашучай барацьбы з недахопамі ўнутранага жыцьця ячэек.

б) Заставіць практыку скліканьня раённых, міжраённых і акруговых нарад сакратароў саўгаскіх і калгаскіх ячэек паасобку для інструктаваньня іх і абмену вопытам працы.

в) Пашырыць практыку заслухоўваньня дакладаў калгаскіх і саўгаскіх ячэек у АК з папярэднім абглядам працы іх.

г) Неабходна прыняць рашучыя захады па ўзмацненьню кіраўніцтва з боку ячэек працы рабачкомаў і працы вытворчых нарад, сыстэматычна праводзячы іх, правяраючы выкананьне прапаноў, рэгулярна дакладваючы на сходах рабочых аб выкананьні іх, усямерна дамагаючыся большай зацікаўленасьці з боку рабочых становішчам і разьвіцьцём саўгасаў.

д) Важнейшай задачай культмасавай работы сярод рабочых саўгасаў і калгасьнікаў павінна быць разьвіцьцё соцыялістычна - сьвядомых адносін рабочых і калгасьнікаў да вытворчасьці, узмацненьне працдысцыпліны, павышэньне культузроўню рабочых і калгасьнікаў праз організацыю гурткоў, курсаў, лекцый і г. д., асабліва зьвярнуўшы ўвагу на падняцьце агрономічных ведаў, уцягваючы ў гэтыя гурткі курсы батракоў і бядняцка-серадняцкія масы насельніцтва. Прычым у першую чаргу павінны быць ужыты захады па зьнішчэньню няпісьменнасьці сярод рабочых і калгасьнікаў.

е) У працы сярод складу нацыянальных калгасаў значна больш трэба зьвярнуць увагу на інтэрнацыянальнае выхаваньне і на значна большую сувязь іх з вакольнічным насельніцтвам.

4. ЦК зварочвае асаблівую ўвагу РК і АК на неабходнасьць рашучага палепшаньня працы сярод с.-гасп. работніц і, галоўным чынам, сярод калгасьніц, выходзячы з таго, што палепшаньне жыцьця і працы калгасаў у значнай меры залежыць ад належнай пастаноўкі працы сярод калгасьніц, забясьпечыць належнымі кіраўнікамі дэлегацкія сходы і сыстэматычнасьць працы іх.

Жан. і АПА аддзелам ЦК перагледзець праграму працы дэлегацкіх сходаў з тым, каб у большай меры работа дэлегацкіх сходаў знаёміла калгасьніц з працай і жыцьцём калгасаў.

5. Прапанаваць АПА ЦК:

а) Распрацаваць пытаньне аб забясьпечаньні саўгаскіх і калгаскіх ячэек пэрыодычнай і інш. кіруючай літаратурай.

б) Сумесна з НКА распрацаваць мерапрыемствы аб большым абслугоўваньні саўгасаў і калгасаў з боку хат-чытален, бібліятэк, раённых палітасьветных устаноў і аб парадку і зьместу комплектаваньня бібліятэк у саўгасах і калгасах.

в) Палепшыць пастаноўку партвыхаваўчай працы ў саўгасах і калгасах з тым, каб увесь склад ячэек у прадстаячым навучальным годзе быў ахоплены партвучобай, уцягнуўшы ў школы і палітгурткі рабочых саўгасаў і калгасьнікаў.

6. Арг. і Аддзелу па працы на вёсцы распрацаваць пытаньне і ўнесьці на разгляд сакратарыяту аб скліканьні Ўсебеларускай нарады сакратароў калгаскіх ячэек.

7. Лічыць неабходным увесьці з пачатку новага бюджэтнага году аплату сакратароў парт'ячэек у буйных саўгасах і калгасах.

Арг. і Вясковаму Аддзелам вызначыць патрэбную колькасьць платных адзінак і суму сродкаў на ўтрыманьне іх, унёсшы ў 2-хтыднёвы тэрмін на разгляд сакратарыяту ЦК.

8. Прапанаваць ЦК ЛКСМБ распрацаваць мерапрыемствы па ўзмацненьню і палепшаньню камсамольскай работы ў саўгасах і калгасах як па лініі большага ўдзелу комсамольскіх ячэек у гаспадарча-вытворчай, так і культурна-масавай выхаваўчай рабоце, павёўшы рашучую барацьбу з хваравітымі зьявішчамі ў КСМ саўгаскіх і калгаскіх ячэек (п'янка, склокі і г. д.).

9. Не разгорнута яшчэ ў большасьці саўгасаў і калгасаў соцыялістычнае спаборніцтва, шмат яшчэ рабочых і калгасьнікаў не ўсьведамілі гэтага пытаньня, а ў некаторых мясцох недаацэньваецца соцыялістычнае спаборніцтва парт'ячэйкамі.

РК і ячэйкам праз сходы, гурткі і гутаркі растлумачыць сярод рабочых і калгасьнікаў важнасьць гэтага пытаньня, дабіўшыся зацікаўленасьці і ініцыятывы саміх мас у разгортваньні соцыялістычнага спаборніцтва ў саўгасах і калгасах, аднaчасова правяраючы выкананьне дагавораў у тых гаспадарках, якія ўжо ўступілі ў соцыялістычнае спаборніцтва.

10. Прапанаваць АК на падставе гэтае пастановы распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненьню і палепшаньню партработы ў саўгасах і калгасах.

11. АК неабходна організаваць сувязь паміж ячэйкамі саўгасаў і калгасаў з гарадзкімі шляхам устанаўленьня шэфства гарадзкіх ячэек над ячэйкамі саўгасаў і калгасаў, шляхам усямернай дапамогі ім як ва ўсёй праводзімай шэфскай працы на вёсцы, так і непасрэдна партыйнымі ячэйкамі гораду.

12. Прадрашыць уключэньне ў наступны плян Сакратарыяту ЦК пастаноўкі дакладаў некалькіх парт'ячэек саўгасаў і калгасаў з папярэднім абсьледаваньнем іх работы.

13. Даручыць Аргаддзелу і аддзелу па рабоце на вёсцы падрыхтаваць у тыднёвы тэрмін пытаньне аб пасылцы работнікаў для ўзмацненьня партработы ў калгасах і ўнесьці на Сакратарыят ЦК.

# Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б па дакладу Тураўскай Райпарторганізацыі.

*(ад 26-VIII 1929 г.).*

1. Заслухаўшы даклад Сакратара Тураўскага Райкому т. Лісіменка і садаклад інструктара ЦК т. Ваўковіча, Сакратарыят ЦК прызнае зусім нездавальняючым становішча Тураўскай райпарторганізацыі, а таксама зусім нездавальняючай работу Райкому мінулага складу і зусім нездавальняючым кіраўніцтва ў рабоце Райкому з боку Мазырскага АК, у выніку чаго:

а) у раёне няма ніводнага калгасу і да апошняга часу не вялася работа ў гэтым напрамку; б) зусім слаба разьвіты прасьцейшыя вытворчыя аб'яднаньні; в) скрыўленьне клясавай лініі пры разьмеркаваньні земфондаў (перароў); г) значны процант крэдытаваньня заможных (5,2); д) адсутнасьць работы з беспартыйным актывам, дзякуючы чаму адсутнічае рост організацыі за кошт батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых; е) наяўнасьць у організацыі хваравітых зьявішчаў (варожы настрой некаторых членаў партыі да калгасаў, выхады і развал калгасаў, агітацыя супроць дзяржпазык і г. д.); ж) зусім недастатковая організацыя беднаты вакол асноўных пытаньняў (колектывізацыя, коопэраваньне, разьмеркаваньне крэдытаў, ільгот, організацыя сплаўных і лесарубачных арцеляй) і зусім слабая работа груп беднаты, кепская работа з батрацтвам і адсутнасьць вучоту апошніх.

Гэтыя буйнейшыя недахопы, галоўным чынам, тлумачыцца, па-першае, тым, што да апошняга часу ў работнікаў раёну панавала думка, *„што ва ўмовах Тураўскага раёну калгаснае будаўніцтва разьвівацца ня можа“*. Гэтая антыпартыйная ўстаноўка да апошняга часу не знайшла рэзкага адпору з боку РК і ўсёй парторганізацыі; і па-другое, ёсьць вялікі недахоп у самой сыстэме работы РК, ён заключаецца ў тым, што РК цэнтр увагі перала-жыў на папяровае кіраўніцтва і не займаўся праверкай выкананьня сваіх дырэктыў, вывучэньнем і падборам людзей і мала практычна дапамагаў ячэйкам у іх рабоце.

2. Сакратарыят ЦК констатуе, што АК ня выканаў дырэктывы партыі аб узмацненьні ўвагі пагранічным раёнам, асабліва ў галіне падбору кіруючых работнікаў раёну, узмацненьня тэмпу земляўпарадкаваньня, жывога кіраўніцтва і ня гледзячы на тое, што апошнія два гады ў раёне было шмат адмоўных зьявішчаў, АК ня прыняў дастатковых мер да організацыйнага ўзмацненьня кікіраўніцтва і практычнай дапамогі. ЦК паказвае АК на неабходнасьць выкананьня гэтых дырэктыў, асабліва ў сэнсе падбору работнікаў і жывога кіраўніцтва.

3. Улічваючы ўсе гэтыя недахопы, Сакратарыят ЦК прапануе РК павесьці рашучую барацьбу з конкрэтнымі праявамі правага ўхілу і прымірэнчымі адносінамі да яго. Гэтую работу праводзіць з такім разьлікам, каб згуртаваць ідэйна і організацыйна парторганізацыю на аснове сапраўды шырокага разгортваньня самакрытыкі і ўнутры-партыйнай дэмократыі і стварэньня ўмоў да яе поўнага адбіцьця ў практычнай рабоце організацыі. Згуртаваць вакол парторганізацыі батрацкі, бядняцкі і лепшую частку серадняцкага актыву *пад пунктам погляду выкананьня цэнтральнай і важнейшай задачы партыі на вёсцы—соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі*.

4. Зьмест усёй масававай работы парторганізацыі, дэлегацкіх сходаў сялянак, комсамольскіх організацый, саветаў, коопэрацыі, павінен у першую чаргу апрэдзеляцца задачай колектывізацыі і вытворчага коопэраваньня сельскае гаспадаркі.

Для выкананьня гэтай дырэктывы парторганізацыі неабходна ўзмацніць кіраўніцтва работай савецкіх, коопэрацыйных і інш. організацый (падбор і вылучэньне людзей, праверка выкананьня, ажыўленьне масавай работы саветаў, коопэрацыі, КСУ, разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва паміж калгасамі, вёскамі, таварыствамі, паасобнымі гаспадаркамі, ажыўленьне работы камісій пры с/с., асабліва сельска-гаспадарчай, уцягнуўшы ў склад калгасьнікаў, а таксама беднякоў і сераднякоў).

5. ЦК адзначае, што матар'ялы абсьледваньня Тураўскай організацыі сьведчаць аб адсутнасьці пляну гаспадарчага разьвіцьця раёну, у прыватнасьці да апошняга часу ня вызначан напрамак разьвіцьця сельскае гаспадаркі раёну, а таксама адсутнічае вучот і вывучэньне адбываючыхся процэсаў на вёсцы, асабліва ў галіне росту паасобных соцыяльных груп (дыфэрэнцыяцыя). Пагэтаму сакратарыят ЦК прапануе: а) Мазырскаму АК у трохмесячны тэрмін скончыць работу па гаспадарчаму раёнаваньню (вызначэньне напрамку разьвіцьця с.-г. раёну); б) РК на падставе агульнага напрамку разьвіцьця сел.-гас. раёну скласьці конкрэтныя пляны і на выкананьне іх накіраваць усю ўвагу як парторганізацыі, так і савецкіх, коопэрацыйных і іншых установаў; в) РК пільна сачыць за адбываючыміся процэсамі на вёсцы, своечасова прымаць меры як экономічнага парадку (крэдыт, ільготы, падатак і г. д.), так і накіроўваць у належным напрамку работу.

Канстатаваць надзвычайна марудны тэмп земляўпарадкаваньня раёну (18 проц.). Пры правядзеньні земляўпарадкаваньня былі організаваны зусім дробныя пасёлкі (3-4 двары). Сакратарыят ЦК прапануе

Мазырскаму АК узмацніць тэмп землеўпарадкаваньня раёну з тым, каб да восені 1930 г. упарадкаваць ня менш 50 проц., прычым галоўную ўвагу парторганізацыі, савецкіх і іншых устаноў накіраваць на арганізацыю буйных калгасаў, таварыстваў і г. д., катэгорычна забараняючы організацыю хутароў і дробных пасёлкаў.

6. Ня гледзячы на значную колькасьць сродкаў, укладаемых у сельскую гаспадарку раёну, праз сыстэму сел.-гас. коопэрацыі надзвычайна нязначная эфектыўнасьць гэтага ўкладаньня. Гэта тлумачыцца, папершае, тым, што РК і коопэрацыйныя органы не вялі работы, каб гэтыя сродкі ў першую чаргу садзейнічалі організацыі калгасаў, машынных і іншых таварыстваў і наогул накіраваць на пашырэньне соцыялістычнага сэктару, і, па-другое, значная доля крэдытаў, даходзячая да 50 проц., скарыстоўваецца не па прызначэньню і ў сельскую гаспадарку не ўкладаецца. ЦК прапануе РК работу с.-г. коопэрацыі будаваць так, каб замацоўваць у першую чаргу разьвіцьцё соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі. Наладзіць кантроль і сыстэматычную праверку скарыстаньня крэдытаў, ствараючы вакол гэтага грамадзкую думку, адначасова спыніць крэдытаваньне заможных, якія яшчэ атрымліваюць значную долю крэдыту (5,2 проц.).

7. Адзначаючы зусім слабую організаванасьць беднаты і слабы ўдзел груп беднаты ў вырашэньні асноўных пытаньняў політыкі партыі на вёсцы (колектывізацыя, коопэраваньне), а таксама пытаньняў мясцовага жыцьця, пагэтаму дзеля пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё пастаноў партыі, забясьпечаньня правядзеньнем чоткай клясавай лініі ва ўсёй рабоце на вёсцы, падвышэньне ролі беднаты ў рабоце ўсіх організацый, вырашчываньне з беднаты на практычнай рабоце актывістых— неабходна ўсю работу з беднатой перавесьці на рэйкі штодзённай сыстэматычнай работы. Выходзячы з гэтага, работу груп беднаты накіраваць на вырашэньне пытаньняў і палепшаньня работы тых органаў, вакол якіх складзены групы, галоўным чынам: а) усебаковае садзейнічаньне колектывізацыі і коопэраваньню бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак; б) разьмеркаваньне бядняцкага крэдыту; в) праверка накіраваньня і скарыстаньня сельскагаспадарчага крэдыту, організацыі грамадзкіх запашак, пасеўкампанія, разьмеркаваньне пасеўнага матар'ялу і г. д.; г) склікаць пэрыодычныя нарады груп беднаты ў маштабе раёну; д) практыкаваць скліканьне прадстаўнікоў груп беднаты напярэдадні сходаў, канфэрэнцый, зьездаў і г. д., якія праводзяцца савецкімі і коопэрацыйнымі ўстановамі.

Асноўнай установкай у рабоце сходаў беднаты павінна быць: вытворчае коопэраваньне, пытаньні колектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, організацыя ўзаемадапамогі, а таксама распрацоўка і практычнае ажыцьцяўленьне пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем кампаніі.

8. Адсутнасьць росту організацыі за кошт батракоў і с.-г. рабочых і зусім слабы рост наогул, адсутнасьць беспартыйнага актыву і работы з ім сьведчыць аб зусім слабай масавай рабоце на вёсцы, слабой сувязі парторганізацый з масамі. ЦК прапануе РК узмацніць масавую работу на вёсцы, праводзячы ў жыцьцё маючыяся дырэктывы ЦК, асаблівую ўвагу зьвярнуць на вярбоўку ў партыю батракоў, беднякоў, калгасьнікаў і с.-г. рабочых. Работу груп беднаты паставіць так, каб падрыхтаваць для ўцягненьня ў партыю актывістых беднякоў, батракоў, якія праявілі сябе на гэтай рабоце. З гэтай мэтай парторганізацыя павінна ставіць пытаньні культурнага і гаспадарчага будаўніцтва і растлумачэньня наогул політыкі партыі на вёсцы, прыцягваць членаў груп беднаты на адчыненыя сходы ячэйкі, уцягваць у політшколы, розныя гурткі і г. д.

9. У сувязі з зусім недастатковай увагай рабоце сярод сялянак з боку

РК і парторганізацыі і адсутнічаньнем на працягу году райжанорганізатара, работа сярод сялянак пастаўлена надзвычайна слаба (кепска працуюць дэлегацкія сходы, няма вылучэньня жанчын-сялянак у савецкія і коопэрацыйныя органы, зусім няма росту організацыі за кошт сялянак). ЦК прапануе РК узмацніць кіраўніцтва работай сярод сялянак асабліва па ўзмацненьню дэлегацкіх сходаў (падбор кіраўнікоў), уцягненьне сялянак у вырашэньне пытаньняў колектывізацыі, коопэраваньня, а галоўнае больш рашуча вылучыць актывістак жанчын (бяднячак і батрачак) на работу ў саветы, коопэрацыю і г. д. Указаць Мазырскаму АК на недапусьцімасьць застаўленьня на працягу году пагранічнага раёну бяз жанорганізатара.

10. Буйным недахопам у працы РК зьяўляецца недастатковае кіраўніцтва комсамолам, у выніку чаго ў комсамольскай організацыі ёсьць шмат нездаровых зьявішчаў (выхад з КСМ цэлай ячэйкай, укрыцьцё аб'ектаў самаабкладаньня і выступленьне супроць кандыдатур ячэйкі пры перавыбарах і г. д.). РК неабходна ўзмацніць кіраўніцтва комсамолам, вядучы барацьбу з хваробнымі зьявішчамі, зьвярнуць увагу на ўцягненьне ў партыю актывістых комсамольцаў з беднаты і батракоў, больш прыцягваць комсамольцаў на партсходы, больш ахапіць комсамольскі актыў школамі і гурткамі і г. д., накіроўваючы галоўную ўвагу на больш актыўны ўдзел комсамолу ў гаспадарчым жыцьці вёскі (колектывізацыя, коопэраваньне, самаабкладаньне і г. д.).

11. У рабоце РК мела месца недаацэнка ролі мястэчка ў гаспадарчым і палітычным жыцьці раёну і агульны падыход да местачковага насельніцтва, што знайшло сваё канкрэтнае праламленьне нават у тым, што РК не разглядаў пляну гаспадарчага ўпарадкаваньня мястэчка і мала займаўся пытаньнем палепшаньня эканамічнага становішча беднаты і наогул была дрэнна пастаўлена работа ў мястэчку.

ЦК прапануе Райкому павесьці барацьбу з такімі адносінамі да мястэчка, узмацніць работу ў мястэчку як у галіне палітычнай організацыі местачковай беднаты, так і ў галіне гаспадарчага ўпарадкаваньня мястэчка.

12. Ня гледзячы на значную ролю лясной гаспадаркі ў жыцьці раёну і значэньня дзеля БССР (экспорт), парторганізацыя гэтаму пытаньню не зварочвала ніякае ўвагі. Слабая работа па організацыі лесарубачных і сплаўных арцеляй, зусім адсутнічае масавая работа сярод лесарубаў і сплаўшчыкаў. ЦК прапануе РК забясьпечыць сталую ўвагу парторганізацыі пытаньням лесараспрацовак і сплаву, як у галіне гаспадарчага жыцьця (зьніжэньне сабекошту загатовак, організацыя арцеляй у першую чаргу з беднякоў, высоўваньне на адміністрацыйную работу беднякоў, батракоў і г. д.), так і ў галіне культурнага абслугоўваньня (газэты, радыё, кіно-перасоўкі і г. д.).

13. Адзначаючы посьпехі ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці (1000 ч.), Сакратарыят ЦК адзначае зусім слабую масавую і палітасьветную работу на вёсцы, хаты-чытальні амаль не працуюць, зусім дрэнны падбор хатнікаў, зусім нездавальняючы сацыяльны склад настаўніцтва. Зусім адсутнічае партыйная і комсамольская праслойка, выходзячы з чаго прапанаваць НКАсьветы і ЦП саюзу працасьветы прыняць тэрміновыя захады да палепшаньня складу настаўніцтва раёну. Работа хат-чыталень і наогул уся палітыкаасьветная праца павінна быць падпарадкавана задачам перабудовы сялянскае гаспадаркі, на коопэрацыйна-колектыўных началах, організоўваючы праз асьветныя ўстановы (хаты-чытальні, нардамы, чырвоныя куткі) прапаганду організацыі калгасаў, з гэтай мэтаю зрабіць выстаўкі, экскурсіі сялян у саўгасы і калгасы другіх блізкіх раёнаў, даклады, гутаркі і г. д.

14. Мазырскаму АК праз тры месяцы праверыць выкананьне гэтых дырэктыў.

# З пастаноў ЦК КП(б)Б.

### Падрыхтоўка камуністых рабочых вылучэнцаў на кіруючую парт.-праф. і савецкую работу.

Для падрыхтоўкі вылучэнцаў камуністых рабочых на кіруючую парт.-праф. і савецкую работу, ЦК ухваліў утварыць з 1 кастрычніка 1929 г. пры ЦК спэцыяльныя 6-ціты-днёвыя курсы на 100 чал.

Курсы будуць камплектавацца з рабочых, якія знаходзяцца на вытворчасьці і маючыя ня менш 5-цігадовага партстажу і 10-цігадовага вытворчага стажу, прымаючых актыўны ўдзел у партыйнай і грамадзкай рабоце, удзельнікаў і грамадзянскай бойкі.

За слухачамі будзе захоўвацца іх апошняя заробная плата.

### Месячнік беларускай культуры.

ЦК падтрымаў і адобрыў ініцыятыву ЦК КСМ аб правядзеньні з лістапада масавага месячніка беларускай культуры.

### Пяцігодзьдзе існаваньня Белдзяржвыдавецтва.

З мэтаю папулярызацыі практычных дасягненьняў нацполітыкі і культуры БССР у кнігавыдавецкай справе, ЦК прызнаў мэтазгодным адзначыць сьвяткаваньне 5-цігадовай дзейнасьці БДВ.

Сьвяткаваньне пяцігодзьдзя дзейнасьці БДВ будзе злучана з сьвяткаваньнем XI гадоў абвяшчэньня БССР.

---

# ОРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ПРАКТЫКА МЕСЦ.

## Становішча і далейшыя задачы работы сярод беднаты.

*(Аршанская акруга).*

Сярод беднаты Аршаншчыны праведзена значная работа па яе арганізацыі, большаму ахопу і падняцьцю палітычнай сьвядомасьці. Так з 1/X-27 г. па 1/X-28 г. па акрузе праведзена 1779 сходаў; з 1/X-28 г. па 1/V—29 г. праведзена 2542 сходы; маецца значны рост колькасьці груп беднаты (на 1/X-28 г. 159 груп, на 1/V-29 г.—208); павялічылася ўдзельная вага беднаты і батракоў у с/с. і кіруючых органах спажывецкай каапэрацыі (1926-27 г. у складзе с/с. беднякоў 21,1%, с.-гасп. рабочых і батракоў 1,96%; 28-29 год—беднякоў 57,62%, с.-г. рабочых і батракоў 2,77%; у спажывецкай каапэрацыі 1927-28 г. беднякоў 14%, с.-г. рабочых і батракоў 3%; 28-29 г. беднякоў—32,6%, с.- г. рабочых і батракоў 4,5%); павялічылася, таксама, колькасьць каапэраванай беднаты ў спажывецкай, сельска-гаспадарчай і крэдытнай каапэрацыі ў параўнаньні з 1927 г. Так, па спажывецкай каапэрацыі на 36%, па сельска-гаспадарчай і крэдытнай на 23,6%. Водпуск крэдытаў аграмаджанаму сэктару сельскай гаспадаркі павялічыўся з 27,7% у 26-27 г. да 42,2% у 27-28 г.

Побач з гэтымі дасягненьнямі АК адзначыў шэраг недахопаў. Так, работа з беднатой яшчэ да гэтага часу носіць кампанейскі характар, бясплянава і, амаль, не закранае пытаньняў штодзённага жыцьця вёскі. Ёсьць шэраг выпадкаў, калі на сходы беднаты ня пушчаюцца серадНякі; у асобных момантах сходамі кіруюць беспартыйныя і дзе-ні-дзе назіраецца замена бядняцкіх сходаў у агульна-сялянскія. Батракі і батрачкі надзвычайна слаба пры-

цягваюцца на сходы беднаты. Канструіраваньне груп беднаты ня ўсюды праводзілася як сьлед і ёсьць выпадкі, калі ў групы ўваходзілі серадннякі і служачыя і не ўваходзілі камуністы і камсамольцы. Рэалізацыя пастаноў груп яшчэ да гэтага часу не наладжана, часта гэтыя пастановы не конкрэтны і парт'ячэйкі ня цікавяцца правядзеньнем у жыцьцё гэтых пастаноў адпаведнымі організацыямі.

У адносінах каапэраваньня АК падкрэсьліў, што хаця і ёсьць паявлічэньне колькасьці каапэраванай беднаты, але ўсё яшчэ недастатковае і ў гэтым напрамку не скарыстоўваюцца ўсе фонды. Зусім слаба праходзіць каапэраваньне батракоў і батрачак. Адначасова з гэтым былі выпадкі каапэраваньня заможнікаў. У пастанове АК адзначыў, што матар'яльная дапамога дзецям беднаты і батракоў—вучням школ—зусім недастатковая, што моцна адбіваецца на наведваньні школ дзецьмі беднаты і ёсьць выпадкі разьмеркаваньня адпушчаных сродкаў для дзяцей беднаты пораўня паміж усімі вучнямі.

Улічваючы ўсе недахопы, АК даў шэраг практычных паказаньняў і ў прыватнасьці даручана парт'ячэйкам вызначыць конкрэтныя мерапрыемствы па правядзеньню работы з беднатой, дамагаючыся поўнай плянавасьці і конкрэтнасьці ў гэтай рабоце, уцягваючы ў яе як мага большую колькасьць батракоў і батрачак, праводзячы адчыненыя пасяджэньні груп, перадаўшы ўсё кіраўніцтва работай груп спэцыяльна вылучанымі ячэйкамі, а там дзе іх няма, райкомамі,—партыйцам. Цэнтр цяжкасьці работы сярод беднаты ўскласьці на ячэйкі, аказваючы ўсямерную дапамогу ім у гэтай рабоце, асабліва там, дзе яны слабы. У зьвязку з тым, што работа сярод беднаты нацменшасьцяй да гэтага часу праводзілася недастаткова, даручана РК і ячэйкам прыцягваць беднату нацменшасьцяй на сходы беднаты, падаючы ёй усямерную экономічную дапамогу і праводзячы сярод яе палітасьветную работу.

# Вынікі вясеньняй пасеўнай кампаніі па Бабруйскай акрузе.

Бабруйскі АК падвёў вынікі вясеньняй пасеўнай кампаніі. У пастанове АК адзначае, што кампанія, якая праходзіла ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, у асноўным, праведзена ў адпаведнасьці з дырэктывамі вышэйшых партыйных органаў і пастаноў пленуму ЦК. Кампанія праходзіла пры дастатковым кіраўніцтве парторганізацый і навокал яе была згуртавана актыўнасьць бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, а таксама прыцягнута ўвага савецкіх і грамадзкіх організацый.

У выніку праведзенай шырокай організацыйнай і політычнай працы з беднатой і серадняцкімі масамі сялянства, матэрыяльнай дапамозе беднаце, аказанай па лініі забясьпечаньня насеньнем, вытворчымі крэдытамі, рамонтнымі майстэрнямі, пракатнымі і злучнымі пунктамі і працгужсілай, пры шырокім тэмпе калектывізацыі—яшчэ больш узмацніўся блёк беднаты з серадняком і на практыцы парторганізацыя пры шчырай дапамозе бедняка і серадняка вяла організаванае наступленьне на кулацкую частку вёскі і дала рашучы адпор усім супраціўленьням кулака.

Станоўчымі бакамі вясеньняй пасеўкампаніі адзначана: організацыя 85 калектыўных гаспадарак на плошчы 10934 гкт. (120% пляну), пашырэньне плошчы за лік скарыстаньня пакінутых земляў і папару на 3,4% (16.000 гкт.); плян зернаачысткі выкананы на 106%; сабрана попелу 1.100 тон; пераведзена на шматпольле 22437 гкт;. арганізавана 24 рамонтных майстэрні; плян контрактацыі выкананы на 73,3%, забясьпечаньня ў асноўным бедняцка-серадняцкай часткі вёскі насеньнем, прасьцейшымі

відамі с-г. машын і вытворчым крэдытам. Побач са станоўчымі бакамі маецца і шэраг недахопаў. Так, арганізаваныя калгасы ў значнай сваёй частцы дробныя, тэмп вытворчага каапэраваньня слабы і плян у гэтым напрамку ня выканан; збор попелу праходзіў пры недастатковай разгорнутасьці гэтай работы. Работа рамонтных майстэрань праходзіла слаба. Апошнія арганізаваліся позна і нагляд за іх работай з боку адпаведных арганізацый быў недастатковы. Позьняе абраньне аграўпаўнаважаных дрэнна адбілася на правядзеньні аграмінімуму. Што датычыцца саўгасаў і калгасаў, то апошнія недастаткова дапамагалі вакольнаму бядняцка-серадняцкаму насельніцтву вёскі. Невыкананьне пляну контрактацыі тлумачыцца тым, што адпаведныя організацыі былі слаба падрыхтаваны да гэтай справы.

Улічваючы асобныя адмоўныя моманты ў вясеньнай пасеўкампаніі, АК даў шэраг практычных указаньняў адпаведным організацыям па асеньняй пасеўкампаніі і, улічваючы кароткі тэрмін, прапанаваў зараз-жа прыступіць да іх выкананьня.

# Некаторыя моманты з працы Кармянскай партарганізацыі.

*(Па матар'ялах абсьледваньня).*

Магілеўскім Акругкомам КП(б)Б на працягу чэрвеня м-ца праведзена абсьледваньне работы Кармянскай райпарторганізацыі, пад кутом гледжаньня выкананьня раней дадзеных дырэктыў. К часу мінулага абсьледваньня (люты 1928 г.) унутранае становішча арганізацыі было нездавальняючым. У арганізацыі мелі месца зажым, камандаваньне з боку быўш. сакратара РК, ня было ўважлівасьці і чуласьці да запатрабаваньняў партыйнай масы. Работнікі, якія не згаджаліся з думкай сакратара РК, пад усякім відам зьнімаліся з работы і высылаліся з організацыі. Такім чынам, былі зьняты з работы шэраг таварышоў раённых работнікаў. Аб рабоце і кіраўніцтве быўш. сакратара РК організацыя ўспамінае з асаблівым абурэньнем. Так, на пашыраным Пленуме РК, дзе разглядаліся вывады абсьледваньня, т. т. патрабавалі ўнясеньня ў рэзолюцыю аб недапушчальнасьці далейшага прабываньня быўш. сакратара РК па партыйнай рабоце, а на раённым партыйным сходзе была складзена камісія для збору дадатковага матар'ялу і пасылкі ў АК і ЦК. Устаноўка на крэдытаваньне служачых раёну, дадзеная быўш. сакратаром РК, была і да гэтага часу. Так, тэх. работнік РВК—партыец—атрымаў 220 р. пазыкі. Карысталіся крэдытам асобныя члены РВК, сьледчы і іншыя служачыя раёну. Быў яшчэ цэлы шэраг іншых выпадкаў. Зразумела, што пасьля гэтакай работы, дзе перакручваліся ў поўным сэнсе слова дырэктывы партыі, пасьля таго, калі на заявы асобных работнікаў з райактыву аб няправільнай лініі сакратара РК з боку вышэйшых парторганаў не рэагіравалася ў парт. організацыі склалася думка, якая, нажаль, існуе і да гэтага часу, што цяжка змагацца і што сакратару ўсё дазволена. Пагэтаму адноўленаму партыйнаму кіраўніцтву на працягу году, ня гледзячы на ўжытыя захады аб разьвіцьці самакрытыкі ў організацыі і выпраўленьні партыйнай лініі, гэта ўдаецца вельмі цяжка. Самакрытыка ў арганізацыі разьвіта недастаткова, аб чым і канстатавала і Бюро АК у сваёй рэзолюцыі. Пагэтаму, калі выходзіць з таго становішча, якое было раней у організацыі, то прыходзіцца сказаць, што ёсьць палепшаньне ў рабоце організацыі, асабліва ў згуртаваньні апошняй, і некаторае выпраўленьне партыйнай лініі, узрос аўторытэт

раённага камітэту партыі ў насельніцтве. Маецца пералом, хаця далёка недастатковы, у росьце арганізацыі. Так, за апошні год арганізацыя вырасла на 35 ч., з іх рабочых і батракоў—16, сялян-бедня-коў—16, сераднякоў—2 і саматужнікаў—1. Але ўсё-ж трэба сказаць, што ўнутранае становішча арганізацыі патрабуе значнага палепшаньня. За апошнія паўтара гады да адказнасьці прыцягвалася 18,8% арганізацыі, з іх рабочыя і батракі складаюць 30%. Ёсьць ячэйкі, дзе прыцягваліся да парт. адказнасьці да 30 і 40% (Струменская ячэйка). Усё гэта патрабуе ўвагі арганізацыі з тым, каб у далейшым барацьба з хваравітымі зьявішчамі ўвязвалася з выхаваньнем партыйцаў, а гэта значыць: шырока прапрацоўваць балючыя зьявішчы, меўшыя месца ў асобных ячэйках, ува ўсёй арганізацыі, чаго не рабілася да гэтага часу. Напрыклад: у райпарторганізацыі на глебе п'янства, у зьвязку з кулацтвам і выкрыўленьнем клясавай лініі, мела месца разлажэньне асобных ячэек і камуністаў (Хляўно, Кароцькі і інш.), прычым па справах асобных камуністаў АК і АКК—вынесьлі і адпаведныя пастановы, аб выключэньні іх з партыі, зьняцьці з работы і г. д. Здавалася-б, што на справе гэтай ячэйкі РК трэба было-б завайстрыць увагу ўсяе парторганізацыі, з тым, каб гэтая справа паслужыла вурокам кожнай ячэйцы і кожнаму камуністу, але-ж гэтага зроблена ня было. Арганізацыя мала ведае аб тых падзеях, якія мелі месца ў раёне. На запытаньне—чаму ня было растлумачана рашэньне АК па гэтай справе ў арганізацыі, атрыманы адказ: „Такіх дырэктыў нам АК не даваў". Усё гэта гаворыць за тое, што мэтоды барацьбы з хваравітымі зьявішчамі ў арганізацыі былі адміністрацыйныя і зусім адсутнічалі выхаваўчыя.

*Барацьба з правым ухілам у арганізацыі.* Раз'ясьніцельная работа па сутнасьці правага ўхілу і прымірэнцкіх адносін да яго ў арганізацыі праведзена значная. Па крайней меры, усе ячэйкі гэтым пытаньнем займаліся. Быў такі выпадак, калі прыехаўшага студэнта-камуніста за тое, што ён у гутарцы з партыйцамі абараняў правільнасьць правага ўхілу, ячэйка зьбіралася арыштаваць? а на справе? У Струменскай і Рассохскай ячэйках мелі месца грубыя выкрыўленьні клясавай лініі: у першай лес разьмеркавалі сярод заможных; ня гледзячы на тое, што сакратар ячэйкі ён-жа старшыня сельскага савету, хлеб разьмеркавалі так, што заможны, з яго благаславеньня атрымлівае хлеб, а бедняку—адказваюць. Таксама мела месца цэлы шэраг іншых выкрыўленьняў клясавай лініі ў раёне, няўважлівыя адносіны да запатрабаваньняў беднаты. Прывядзем некаторыя факты: Старшыня Хлеўнянскай Спажывецкай каапэрацыі, ён-жа сакратар парт. ячэйкі лічыць, што беднату браць у падводы для перавозкі тавараў нельга, бо яна тавары раскрадзе, і з яе нічога ня возьмеш. Падобную лінію ён праводзіць на практыцы і перавозку тавараў даручае больш заможным, як „чэсным людзям".

Дармовы і крэдытны лес у цэлым шэрагу сельскіх саветаў разьмяркован сярод заможных, а частка гэтага лесу зусім не разьмеркавана. Фонд для каапэраваньня беднаты па лініі с/г. крэд. каапэрацыі, ня гледзячы на зусім нізкі процант каапэраваньня, да гэтага часу не выкарыстаны поўнасьцю, і райпарторганізацыя гэтым пытаньнем не займалася. Ня гледзячы на тое, што ў Кармянскім раёне не разгорнута работа па калектывізацыі, камсамольцы і камуністы ісьці ў калгасы ня хочуць. Так, у калгасах камуністаў—5 чал., альбо 4,7%, а камсамольцаў—8%. Меліся выпадкі нежаданьня ўзбуйняць калгасы з боку камуністаў у самых калгасах (калектыў „Сталіна"). Усё гэта гаворыць за тое, што барацьба з правым ухілам усё яшчэ праводзіцца на словах і вельмі марудна арганізацыя пераходзіць ад слоў да справы. Барацьба з канкрэтнымі носьбітамі правага ўхілу

і прымірэнцкімі адносінамі да яго праводзіцца слаба, а з боку Райкому да гэтага часу амаль што нічога ня зроблена па мобілізацыі партыйнай організацыі ў гэтым напрамку. У РК КП(б)Б савецкіх і каапэрацыйных установах ёсьць надзвычайна шкодная тэндэнцыя—замазаць сапраўднае становішча, з тым, каб паказаць, што ў раёне ўсё добра.

Як выконваюцца дырэктывы 15-га Зьезду УсеКП(б) аб рашучым наступленьні на капіталістычныя элемэнты? На жаль, гэтыя дырэктывы ў раёне не атрымалі адпаведнага праламленьня. Так, па лініі індывідуальнага абкладаньня кулацтва ў бягучую вучотную кампанію—заданьне акругі выканана на 50%, пры наліччы ў раёне да 600 батракоў і пастухоў. Ёсьць настрой у асобных камуністаў, што ў нас няма кулакоў і няма каго абкладаць, а на справе вельмі мала зроблена с/с. і ячэйкамі, каб поўнасьцю выявіць кулацкія гаспадаркі, аб чым прызнаў і сам сакратар на Бюро АК, але-ж пасьля паказаньня Бюро АК на недапушчальнасьць падобных зьявішчаў і калі організацыя ўзялася за справу, дык выявіла 16 новых кулацкіх гаспадарак.

Самаабкладаньне, як мінулага, так і бягучага году, ня поўнасьцю спагнана, прычым гаспадаркі, не ўнёсшыя прылічанай па самаабкладаньню сумы, зьяўляюцца больш заможнымі. Крэдытаваньне заможных і ўсіх разьмеркаваных крэдытаў—заможныя атрымалі 4%.

У частцы-ж організацыі беднаты хоць і маецца некаторы посьпех у рабоце сярод яе, усё-ж у параўнаньні з запатрабаваньнямі, якія ў даны адрэзак часу паграбуюцца ад парт. організацыі, гэтакая стаіць не на належнай вышыні. Партыйныя ячэйкі, сельскія саветы і профорганізацыі не заўсёды зьяўляліся абаронцамі беднаты, батракоў і рабочых ад кулацкіх і антысавецкіх элемэнтаў. Прывядзем факты: у в. Сапажкі падкулачнік зьбіў пастуха: у в. „Хляўно“ агент кулакоў—п'яніца зьбіў бедняка-яўрэя, прычым на гэты ўчынак, хаця і рэагавалася, але-ж суд абмежаваўся вынясеньнем умоўнага пакараньня; у саўгасе „Карма“ п'яны бухгальтар саўгасу, былы чыноўнік, антысавецкі элемэнт, зьбіў рабочага саўгасу, прычым рашэньне партыйнай ячэйкі, вынесенае на другі дзень—27 сакавіка—аб прыцягненьні да адказнасьці, ляжала ў Райкоме і судовых органах да 15-га чэрвеня (да часу абсьледваньня) без адпаведнага рэагаваньня, а профорганізацыі гэта па сутнасьці палітычнае пытаньне зьвялі да простай бойкі, абмежаваўшыся вымовай кулацкаму найміту Захараву за пабоі рабочага і да гэтага часу гэты бухгальтар ня быў зволен з работы, хаця суд і вынес адпаведнае рашэньне.

Усе вышэй пададзеныя факты гавораць за тое, што ў рабоце, як партыйнай, так і савецкай, прафэсыянальнай і судовых органаў Кармянскага раёну ёсьць тэндэнцыя згубленьня клясавай чуласьці і палітычнай орыентацыі.

Апошняе пытаньне—гэта, як ажыцьцяўляў РК партыйнае кіраўніцтва ячэйкамі савецкімі, каапэрацыйнымі і інш. установамі раёну. Трэба прызнаць, што гэткае было вельмі недастатковым. Так, па 12 заслуханых дакладаў у РК зусім ня вынесены пастановы, а вылучаныя камісіі па 7—10 месяцаў складаюць іх. У выніку дрэннага кіраўніцтва фракцыяй РВК і слабай работы апошняй, бессыстэмнай траты сродкаў з райбюджэту зусім праваліўся бюджэт і будаўніцтва ў раёне. Запазычанасьць РВК сялянству—16.000 руб. у той-жа час ня ўзыскана 19.000 рублёў штрафу і 2.000 руб. с/г. падатку. У час вясеньняй пасеўкампаніі ў раёне праведзена значная работа па калектывізацыі с/г., прычым ў выніку недастатковага кіраўніцтва гэтай работай з боку парторганізацыі і РВК організаваныя калектывы значна драбнейшыя, чым ся старыя калектывы. Так, організа-

ваныя калектывы да 1928 г.—у сярэднім на калектыў маецца 140 гкт., організованыя у 1928 г. у сярэднім на калектыў 120 гект., організованыя ў 1929 г.—89 гектараў. Ня поўнасьцю выканаааны плян зернаачышчэньня і контрактацыі, прычым аграўпаўнаважаныя да гэтага часу неабраны па 11 сельскіх саветах. Агромінімум прыняты на 10—15%.

Пытаньне аб росьце партыі за лік батракоў:—ня гледзячы на некаторыя посьпехі, ўсё-ж прыходзіцца сказаць, што ячэйкі ня ўцямілі значэньня вярбоўкі батракоў у партыю і амаль-што нічога ня робяць у гэтым напрамку. Так, у Струменскай і Рассохскай ячэйках ляжалі больш за месяц неразгледжанымі заявы батракоў. Трэба, каб Кармянскі РК мабілізаваў увагу ўсёй парторганізацыі на выкананьне партыйных дырэктыў.

**К. Бойка.**

# Партыйная асьвета.

### Віцебская акруга.

Партыйная асьвета мінулага году мела шэраг недахопаў. Перш за ўсё ня ўсёй партыйнай масай былі ўсвоены прынцыпы дабраахвотнасьці і меліся выпадкі мэханічнага і сьпісачнага залічэньня ў гурткі і школы і абмежаваньня выбару форм вучобы. Папярэдняя папулярызацыя неабходнасьці падняцьця палітузроўню была надзвычайна слабая, а з боку адпаведных організацый, калі пачалася вучоба, ня было дастатковага кантролю і праверкі работы, дзякуючы чаму вялікая частка таварышоў ня была ахоплена партсеткаю, а з боку ахопленых быў значны адсеў.

Гэтаму яшчэ садзейнічала нездавальняючая якасьць зьместу вучобы, недастатковая мэтодычная і палітычная падрыхтоўка часткі пропагандыстаў. Апошняе тлумачыцца тым, што значная частка пропагандыстаў была перагружана работай у розных грамадзкіх організацыях, частыя ад'езды па заданьнях на вёску для правядзеньня розных кампаній і інш.

Выходзячы з гэтага, АК даручыў АПА АК, РК і ячэйкам КП(б)Б і КСМ зараз прыступіць да папулярызацыі партасьветы будучага году праз партыйныя сходы, сходы рабочых, с.-г. рабочых, беднаты, калгасьнікаў і інш. поўнасьцю скарыстоўваючы, у гэтым напрамку, усе насьценныя газэты. РК цяпер прыступаюць да вылучэньня кадру пропагандыстаў для кіраўніцтва школамі і гурткамі. Каб даць магчымасьць пропагандыстам належным чынам падрыхтавацца да заняткаў, АК даручыў АПА АК уключыць у каштарыс будучага году сродкі для аплаты пропагандыстаў-рабочых за адзін дзень у тыдзень, на які яны аслабаняюцца ад работы на прадпрыемствах, згодна пастановы ЦК КП(б)Б.

У сетцы партыйнай і агульнаадукацыйнай асьветы прадугледжаны максымальны ахоп зьменных рабочых і рабочых нацменшасьцяй.

Даручана АПА АК зараз прыступіць да забесьпячэньня ня толькі цьвёрдай сеткі партасьветы, але і да арганізацыі асобных гурткоў па вывучэньні 5-гадов. пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі, паасобных проблем 5-гадовага пляну, гурткоў па пытаньню агра-граматы, па вывучэньні міжнароднага рабочага руху, програмы Комінтэрну, антырэлігійных і інш.—належнай колькасьцю падручнікаў і рознымі навучальнымі дапаможнікамі.

Для больш поўнага ахопу партвучобай кандыдатаў партыі і шырокіх кадраў беспартыйнага актыву, АК даручыў адпаведным парторганізацыям разгарнуць сетку пачатковых партшкол, організацыю гутарак па асабліва-зацікаўліваючых пытаньнях, розных каротка-тэрміновых гурткоў і інш.

### Полацкая акруга.

Маючы на ўвазе набліжэньне новага 1929-30 навучальнага году, Полацкі АК падвёў вынікі партасьветы за мінулы год. Хаця і ёсьць некаторы ўзрост ахопу вучобай партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйнага актыву ў мінулым годзе, але ўсё-такі процант ахопу партыйцаў быў недастатковы, а беспартыйных рабочых, батракоў і калгасьнікаў зусім слабы.

Неразуменьне прынцыпу дабраахвотнасьці, тэхнічнае залічэньне ў школы і гурткі, нездавальняючы падбор прапагандыстаў, няўвязка праграм з мясцовымі і палітычна-гаспадарчымі пытаньнямі, адсутнасьць адпаведнага кіраўніцтва і слабое здавальненьне падручнікамі садзейнічала значнаму адсеву са школ і гурткоў пад канец году.

Каб зьменшыць у будучым недахопы, ужо цяпер прыступлена к забесьпячэньню падручнікамі, прапагандыстамі, да распрацоўкі плянаў, форм і мэтадаў работы, якія ў бліжэйшы тэрмін павінны быць абмяркованы на партсходах, сходах батракоў, беднаты, калгасьнікаў, адначасова праводзячы шэраг дакладаў і гутарак па гэтаму пытаньню ў клюбах, кутках, нардамох і інш.

Для большага ўцягненьня ўпартасьветную сетку, як партыйцаў, так і беспартыйных, даручана адпаведным парторганізацыям прыстасаваць работу апошняй да ўмоў работы на прадпрыемствах па цэхах, зьменах, і організаваць шэраг партшкол ў саўгасах і больш буйных калгасах, а для адзіночак партыйцаў вёскі організаваць некалькі школ перасовак.

З мэтаю лепшага кіраўніцтва партвучобаў на працягу году пастаноўлена праводзіць сыстэматычную работу сэмінарыяў, нарад кіраўнікоў і ўвесьці як у горадзе, так і на вёсцы, інструктарскі склад, праводзячы паміж асобнымі школамі і гурткамі спаборніцтва.

## Агляд работы вяч. саўпартшколы.

Скліканыя Менскім АК курсы-конфэрэнцыі ВСПШ падвялі вынікі работы школы ў 1928-29 г. Прызнаўшы, што школа значна падняла тэарытычны ўзровень слухачоў, прызнала патрэбным больш увязаць усю вучобу з пытаньнямі сучаснасьці, дапамагла слухачом разьбірацца ў сутнасьці і неабходнасьці барацьбы з рознымі ўхіламі ў нашай партыі, адзначана шэраг недахопаў ў арганізацыйных адносінах. Школа распачала позна сваю работу (у канцы кастрычніка), недастаткова верна праведзена комплектаваньне (прыём непадрыхтованых, не па ўзроўню ведаў разьмеркаваны слухачы па групах); перагружанасьць слухачоў грамадзкай работай; зрывы заняткаў па прычыне няяўкі кіраўнікоў; перагружанасьць праграмы; зьмена кіраўнікоў; недастатковае скарыстаньче полуляборараторнага мэтоду, вялікі процант служачых (36,2%), з якіх частка магла займацца самаадукацыяй. Каб палепшыць работу, ВСПШ у будучым вызначала навучальны год пачаць з кастрычніка і прыцягнуць да 1 мая і комплектаваць школу ў грунтоўным за лік рабочых ад варштату і служачых, ня маючых магчымасьці займацца самаадукацыяй; да пачатку навучальнага году пераглядзець нагрузку слухачоў, адхіліць усе недахопы ў комплектаваньні, запатрабаваньне неабходнага мінімума агульна-адукацыйных ведаў, комплектаваньне груп па ўзроўню разьвіцьця); устанавіць 3 дні партвучобы, аслабаняючы іх ад усялякай іншай грамадзкай работы і шэраг іншых мерапрыемстваў, якія павінны адхіліць паказаныя вышэй недахопы і забясьпечыць нормальную работу школы.

# МЯСЦОВАЯ ХРОНІКА.

## Мерапрыемствы па асеньняй пасеўкампаніі.

### Полацкая акруга.

У сувязі з надыходзячай асеньняй пасеўкампаніяй Полацкі АК падкрэсьліў неабходнасьць узбуйненьня існуючых калгасаў. Даручана фракцыі АВК распрацаваць конкрэтныя лічбы па ўздыму уражайнасьці на падставе пастановы ЦК. Прымаючы пад увагу, што ў вясеньнюю пасеўкапанію частка с.-г. машын ня была рэалізавана, даручана РК і фракцыі с/саюзу зьвярнуць асаблівую ўвагу на поўнае скарыстаньнес.-г. машын, а фракцыі АВК, РСІ і РК шчыльна сачыць за праверкай і выкананьнем дадзеных заданьняў, не дапускаючы памылак, што мелі месца ў вясеньнюю пасеўкампанію.

### Віцебская акруга.

Яшчэ у ліпені м-цы Віцебскі АК зацьвердзіў плян ўдзелу прафсаюзных і шэфскіх арганізацый у асеньняй пасеўкампаніі. Плянам прадугледжана правядзеньне Ф. З. М. К. і мясцовымі арганізацыямі шэфскіх т-ваў гутарак і дакладаў на сходах рабочых і служачых. На гэтых сходах абмяркоўваюцца пляны арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва паміж вёскамі і шэфствуючымі над імі арганізацыямі, пытаньне стварэньня фондаў садзейнічаньня калектывізацыі і падняцьцю ўраджайнасьці (дабраахвотная адработка, адлічэньне, спэктаклі, лётарэі і інш.) комплектуюцца рабочыя брыгады і спаборніцкія атрады па 3-4 чал. кожная.

Організаваныя брыгады пасылаюцца на адпаведныя раёны не пазьней 1/VIII і ня менш чымсь на адзін месяц.

Для вытворчай дапамогі беднаце плянам прадугледжана організацыя 6 рамонтных брыгад з сьлёсараў, кавалёў і шорнікаў з мэтаю адрамантаваньня інвэнтару беднаце і КСУ.

Асноўныя моманты работы брыгад зводзяцца к дапамозе партыйным, савецкім і грамадзкім організацыям вёскі ў складаньні плянаў, абмеркаваньні іх на пленумах с/саветах, КСУ, сходах беднаты, жанчын, моладзі, вядзеньня шырокай растлумачальнай работы па неабходнасьці пашырэньня азімага кліну, ачыстцы насеньня, зябленьні, пераходу на шматпольле, далейшае разгортваньне работы па організацыі новых і ўзмацненьню старых калгасаў і вытворчаму каапэраваньню бядняцка-серадняцкіх мас, стварэньне чытален, куткоў і організацыя розных гурткоў, а таксама закладка вопытных вучастаў і г. д.

## Мерапрыемствы па ўзмацненьню работы сярод сэзоньнікаў.

Надаючы надзвычайна вялікае значэньне рабоце сярод сэзонных рабочых, Аршанскі АК КП(б)Б вылучыў шэраг партыйцаў для ўзмацненьня работы сярод сэзонных рабочых, разьмеркаваў іх і прымацаваў па адпаведных ячэйках і будаўніцтву.

### Узмацненьне калгассаюзу работнікамі.

Для ўзмацненьня кадраў калгасьнікаў Бабруйскі АК правёў 2-х месячныя акруговыя курсы з ахопам 27 чал., каротка-тэрміновыя курсы з ахопам 200 чал. Было паслана ў Маскву на курсы па будаўніцтву 3 чал., у Горкі па птушкаводзтву 6 калгасьніц, у Менск па сьвінагадоўлі 2 чал., на экскурсію ў лепшыя калгасы паслана 15 чал., раёнамі вылучана і паслана ў калгасы 3 адказных работнікі.

З восені даручана адпаведным організацыям правесьці 2-хмесяч-

ныя курсы кіраўнікоў буйных калгасаў у колькасьці 40 чал. і 40 чал. рахункаводаў.

Прапанована фракцыі Калгассаюзу, РК КП(б)Б, Інспэктарыяту асьветы падабраць і запоўніць мейсцы пэрыодычных курсаў калгасьнікамі, якія будуць праводзіцца ў беларускім і саюзным маштабе па спэцыяльных галінах сельскае гаспадаркі, а таксама забясьпечыць укомплектаваньне калгасьнікамі 7-мігодкі, школы сялянскай моладзі, пэдтэхнікумы і вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Адначасова даручана Оргаддзелу, Гаркому і Райкомам КП(б)Б вылучыць на сталую работу ў калгасы 16 работнікаў—5 для яўрэйскіх і 11 для беларускіх калгасаў. Фракцыя Калгассаюзу пры дапамозе Сельсаюзу, Акрсаюзу і Сельбанку створыць спэцыяльны фонд для гэтай мэты.

**Стварэньне т-ва па калектывізацыі.**

Віцебскі АК стварыў ініцыятыўную групу па організацыі т-ва садзейнічаньня калектывізацыі. У групу ўваходзяць па аднаму прадстаўніку ад вясковага аддзелу АК, Заг. Акрза, Старшыня Калгассаюзу, АК КСМ, АПБ, Сельсаюзу, Спажыўсаюзу і Культзмычкі. Камісія павінна злажыць плян сваёй працы ў тыднёвы тэрмін.

Адначасова прапанавана Сельрайкомам КП(б)Б стварыць гэтакія камісіі па раёнах.

---

Рэдактар: *Рэдкалегія.*

Друкарня БДВ. Зак. № 3558. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 2706.

